ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №90 (4448) СЕРАДА, 9 лістапада 1994 года | Кошт па падпісцы — 16 руб., у розніцу — 60 руб.

## НГ-ІНФАРМ

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

### Падарунак з Беларусі

Пасля двухгадовага перапынку я зноў атрымаў магчымасць, хаця і са спазненнем, чытаць "Настаўніцкую газету", якой мяне былі пазбавілі чытаць, бо на працягу трэцяга года запар "Настаўніцкая газета" не трапляе ў каталог "Роспечать", па якім вядзецца падпіска на газеты і часопісы краін СНД. Няма газеты і ў падпісным каталозе на 1995 год, падпіска на які праводзіцца гэтымі днямі...

... І ўсё-такі я атрымаў бандэрольку са сталіцы незалежнай Беларусі, у якой знайшоў 40-ы нумар газеты "Літаратура і мастацтва" і аж чатыры нумары "Настаўніцкай газеты" (№79—82), якія пабачылі свет у кастрычніку. А падарунак гэты мне зрабілі супрацоўнікі Рэспубліканскай навукова-метадычнай бібліятэкі Міністэрства адукацыі, якую ўзначальвае спадарыня А.В.Шамелава, аформіўшы мне падпіску на гэтыя выданні на IV квартал бягучага года. Карыстаючыся магчымасцю, хачу праз "Настаўніцкую газету" выказаць сваю шчырую падзяку спадарыні А.В.Шамелавай і ўсім супрацоўнікам бібліятэкі па вул. Захарава, 59, у Мінску за гэты цудоўны і такі жаданы для мяне падарунак!

З павагай і найлепшымі пажаданнямі

Пятрусь КАПЧЫК,
філолаг, выкладчык рускай і польскай моў сярэдняй школы № 1 Ізяслава Хмяльніцкай вобласці.

### ВЕСТКІ

На факультэце педагогікі і псіхалогіі Гродзенскага універсітэта ўпершыню рыхтуюць псіхолагаў для работы ў праваахоўных органах. На факультэце ёсць аддзяленні педагогікі, мастацтваў, методыкі пачатковага навучання.

* * *

Даныя рэспубліканскай службы занятасці сведчаць, што сярод 133 тысяч беспрацоўных, якія былі зарэгістраваны за 9 месяцаў сёлетняга года, 6 тысяч выпускнікоў ПТВ, 3 тысячы 240 выпускнікоў тэхнікумаў, 1 тысяча 664 выпускнікі ВНУ, 788 непаўналетніх, якія закончылі 9 класаў, і 5 тысяч 813 чалавек пасля заканчэння 11 класаў.

* * *

У Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце прайшла навукова-практычная канферэнцыя "Беларуская мова сярод еўрапейскіх". На канферэнцыі прагучала, што беларуская мова займае 76-е месца сярод 310 моў свету, колькасць носьбітаў якіх перавышае адзін мільён.

* * *

У калгасе "Дружба народаў" Смаргонскага раёна праведзена рэстаўрацыя старажытнага будынка вадзянога млына. У бліжэйшы час у ім адкрыецца рэгіянальны музей фальклору і сялянскага быту.

* * *

Конкурс на лепшы верш, музычны твор, выраб з дрэва і металу, а таксама школьнае сачыненне аб'явіў былы партызан, наглядчык музея ў Расонскім раёне Леанід Рабінін. Ён устанавіў прэміі са сваіх зберажэнняў.

Міхась АНІСЕНКА.









БУДНІ І СВЯТЫ ШКОЛЫ

## УСЁ ВЫРАШАЕ НАСТАЎНІК



Наўрад ці хто скажа, каму прыйшла ў галаву ў тым далёкім 33-м годзе геніяльная думка пабудаваць школу літаральна за некалькі дзесяткаў крокаў ад чыгункі. Аднак выгода ад гэтага ёсць: і тым настаўнікам, якія прыязджаюць на працу з Койданава, і тым правяраючым, якім не вельмі хочацца таміць ногі па раскіданых вулічках-рукавах Негарэлага, тым больш у непагадзь. Што тычыцца перастуку колаў фанабэрыстых хуткіх, самавітых пасажырскіх, шустрых электрычных і цяжкіх таварных цягнікоў за вокнамі школы, то яе гаспадары гэтага пошуму-пошчаку нібыта і не заўважаюць — і не да таго прывыкаем усе. Таму і прадстаўнікам "Настаўніцкай газеты" не выпадала наракаць, што ад электрычкі да 2-й школы ад сілы дзесяць хвілін хады уздоўж чыгункі. У актавай зале прысадзістага цаглянага будынка пад шыферным дахам ужо сабраліся вучні, настаўнікі і госці свята ўраджаю — працаўнікі мясцовага калгаса, бацькі. Вось так мы трапілі, як кажуць, з карабля на баль.

... Чатыры гады таму школа была васьмігодкай. А сёлета ўжо зроблены трэці выпуск сярэдняй. Як гэта "далося" педкалектыву, ведае хіба што ён сам ды Дзяржынскі раённы аддзел адукацыі. Можаце ўявіць: першапачаткова будынак быў разлічаны на сто вучняў. Цяпер у школе 250 выхаванцаў. Гэта дзеля іх зроблена рэканструкцыя, узведзены прыбудовы для малодшых класаў, майстэрні. Агаралі і ўласную кацельню. А сёлетнім летам праведзены капітальны рамонт, на які патрачана больш як паўмільярда рублёў. Хоць заняткі праводзяцца ў дзве змены, але ж у абноўленым, падфарбаваным, падгабляваным унутры і вонкава будынку весялей вучыцца дзецям, а настаўнікам — працаваць.

Ды рэч не толькі ў тым, што палепшыліся ўмовы вучобы і працы. Ёсць яшчэ адна — і, бадай, галоўная — умова, якая вызначае агульны тонус школы: атмасфера ўзаемін у калектыве настаўнікаў і вучняў. Калі яна грунтуецца на даверы, супрацоўніцтве і адказнасці за сваю вучобу і працу, то ўсе клопаты, турботы і праблемы школьнага жыцця — а дзе іх няма? — вырашальныя. На стварэнне такой атмасферы працуе і пазіцыя дырэктара Пятра Трафімавіча Мельнікава: "Кожны павінен займацца сваёй справай: настаўнік — вучыць і выхоўваць, вучань — вучыцца". Пётр Трафімавіч перакананы: якімі б ні былі стратэгічныя напрамкі адукацыі, якім бы добрым ні было матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне навучальна-выхаваўчага працэсу, у канчатковым выніку поспех навучання і выхавання залежыць ад настаўніка. Калі ты найперш цікавы вучням як асоба, то і на тваіх занятках ім будзе цікава. "Той не настаўнік, — гаворыць дырэктар маладым педагогам, — які на ўроку ні разу не ўсміхнуўся, не пажартаваў. Не бойцеся раскрыцца вучням — і яны не будуць баяцца ісці на ваш урок".

Расказваючы нам пра сваіх калег, Пётр Трафімавіч для кожнага з іх знаходзіў добрае слова, у кожным адзначаў адметную творчую рысу. Вялікую метадычную работу з настаўнікамі праводзіць намеснік дырэктара па навучальна-выхаваўчай рабоце Людміла Сцяпанаўна Фалітар. Глыбокія веды дае вучням

(Заканчэнне на 2-й стар.)







НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ

## ЦІ ЁСЦЬ БУДУЧЫНЯ Ў БЕЛАРУСКАЙ НАВУКІ?

### 23—24 ЛІСТАПАДА АДБУДЗЕЦЦА ЎСЕБЕЛАРУСКАЯ СТУДЭНЦКАЯ НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

Вядома, што падрыхтоўка да дня заўтрашняга вядзецца ў школах, ліцэях, сярэдніх спецыяльных установах і ў ВНУ. Але ці шмат мы сёння маем тых вучняў, з якіх заўтра вырастуць нашы беларускія вучоныя, грамадскія і дзяржаўныя дзеячы, дыпламаты, кіраўнікі народнай гаспадаркі, проста кемлівыя і дбайныя работнікі, гаспадары на сваёй зямлі.

Сацыёлагі, напрыклад, сцвярджаюць, што тых сярод вучняў, студэнтаў і навучэнцаў, якія здольны ў будучыні творча і плённа займацца навукай, культурай, кіраваннем, быць генератарамі ідэй, ствараць творчыя калектывы, навуковыя школы, вызначаць галоўныя напрамкі творчых пошукаў, не так ужо і многа. У свеце распрацавана індэксацыя інтэлектуальнай дзейнасці людзей. Напрыклад, у Нямеччыне інтэлектуальны патэнцыял складае ў сярэднім 3,5 чалавека з тысячы. У Злучаных Штатах Амерыкі колькасць людзей з асаблівым навукова-творчым патэнцыялам акрэсліваецца ў суадносіне — 2,95 на тысячу, у Японіі — 4,2. Гіпатэтычна можна сцвярджаць, што і мы знаходзімся на тым жа агульналюдскім узроўні інтэлектуальных магчымасцяў. А колькі таленавітых вучняў, юнакоў і дзяўчат мы не далічыліся? Колькі іх не трапіла ў ВНУ? Агульнавядома, што нават калі самага таленавітага чалавека пасадзіць у бюракратычнае крэсла, ён не зможа ў поўнай меры выявіць свае патэнцыяльныя інтэлектуальныя здольнасці. Даўно наспела неабходнасць у свабодным прыёме-запісе ў ВНУ. Ці ж па-гаспадарску абыходзіцца дзяржава са сваімі гадаванцамі, калі з 5—6 чалавек паступае толькі адзін? Але ж якім чынам даць усім і кожнаму аднолькавыя магчымасці вывучыцца, праявіць сябе ў самых розных галінах навуковай і творчай дзейнасці? Варта падумаць і пра перакваліфікацыю нашых спецыялістаў, каб кожны мог у любы зручны для яго момант павысіць свой агульнаадукацыйны ўзровень ці набыць нейкую іншую спецыяльнасць, часам нават не мяняючы сваёй прафесіі. У любым узросце кожны павінен мець мажлівасць набыць неабходныя веды ў любой галіне і ў любым аб'ёме, на выбар. Напрыклад, па мове, літаратуры, жывапісе, тэорыі мастацтва, па беларусістыцы. Тады і будзе забяспечана рэальнае гарантаванне права на адукацыю, як гэта запісана ў Канстытуцыі.

Наша сістэма навучання можа і павінна арганічна ўваходзіць у сусветную сістэму адукацыі. Пра мажлівасць атрымаць адукацыю за мяжой таксама нельга не клапаціцца. Толькі так чалавецтва можа сёння выжыць і забяспечыць росквіт народаў.

Сёння навучэнцы школ, студэнцтва — найбольш эфектыўная і дзеяздольная сіла ў пабудове незалежнай дзяржавы. Адукацыя дорага каштуе, але і акупляецца, прыносіць пасля немалы прыбытак. Хворыя людзі не пабудуюць здаровую эканоміку, гнілое дрэва не дае добрых пладоў. А на пахілае дрэва і козы скачуць. У сённяшніх умовах менавіта школьнікі, студэнты і навучэнцы з'яўляюцца тым стратэгічным сродкам, з дапамогай якога мы можам пазбавіцца ад крызісаў у будучыні, забяспечыць рост эканамічнага і культурнага дабрабыту нацыі.

Ва ўсе часы студэнцтва было галоўным рухавіком прагрэсу. Ідэі, у іх асяроддзе закінутыя, станавіліся рэальнай сілай і сродкам здзяйснення вялікіх планаў. Вось чаму сёння варта глянуць прыдзірлівым вокам на нашу студэнцкую навуку. Гэтым мэтам павінна паслужыць Усебеларуская студэнцкая навуковая канферэнцыя, якая плануецца на 23—24 лістапада 1994 года і будзе праводзіцца на базе БДУ па рашэнні Міністэрства адукацыі і навукі. Запросіны на ўдзел у навуковай канферэнцыі, хоць яна і лічыцца студэнцкай, мы адрасуем і настаўнікам школ, і выкладчыкам, педагогам, учарашнім студэнтам, хто назапасіў вопыт практычнай працы з вучнямі, навучэнцамі, студэнтамі і мае што сказаць пра захаванне і памнажэнне, пра выяўленне нашага творчага духоўнага патэнцыялу. У школе мы можам распазнаць будучага навукоўца, у сённяшнім студэнце бачым ужо нашых мэтраў навукі, акадэмікаў, лаўрэатаў. А пакуль што сённяшні студэнт — "карыфей эпохі і на паўстаўкі геній" — не "падключаны" да стваральных працэсаў у грамадстве, працуе не на поўную сілу, не заўсёды ведае, на што скіраваць свой дапытлівы розум. "У мяне розум спрытны", — казаў герой купалаўскай "Паўлінкі". Вось гэтую, ад прыроды дадзеную нам кемлівасць, спрытнасць, настойлівасць у сённяшніх студэнтаў мы павінны культываваць, узрошчваць. "Ары, барануй, засявай", — пісаў наш класік, дабаўляючы пры гэтым: "Колькі ёсць сілы, да самай магілы". Настаўнік, педагог вышэйшай школы не можа не мець сваіх вучняў-паслядоўнікаў і сваёй школы, не можа не выпрацоўваць свой стыль у працы, не можа працаваць з аднойчы знойдзеным матэрыялам. Вопыт кожнага — неабходны. "Хто змалку пачне, той майстрам будзе", — пісаў Ф.Шылер. Давайце разам думаць пра тое, як нам узгадаваць, не прапусціць, не пагубляць здольных і найбольш перспектыўных нашых гадаванцаў.

Калі ў нас будзе магутны навукова-культурны, тэхналагічна абноўлены, сапраўды стваральны патэнцыял нацыі, мы здолеем наладзіць жыццё і станем патрэбныя свету.

Уладзімір НАВУМОВІЧ,
загадчык кафедры беларусазнаўства БДУ,
кандыдат філалагічных навук.

# НГ-іНФАРМ



СУПРАЦОЎНІЦТВА

## БАСЕЙН ПАБУДУЮЦЬ НЕМЦЫ

**Днямі ў Дулебскі дзіцячы дом-школу-сад, што на Бярэзіншчыне, наведаліся госці з нямецкага горада Бургкайма. Яны прыехалі не толькі дзеля перадачы дулебцам гуманітарнай дапамогі, але і з прапановамі пастаяннага супрацоўніцтва.**

Зараз яны дапамаглі школе зрабіць рамонт, прывезлі і ўстанавілі ў будынку сваё сантэхнічнае абсталяванне. Школа разбудоўваецца. І немцы зробяць адну з пабудоў — хутчэй за ўсё басейн.

Многа часу госці праводзілі з дзецьмі. Таленавітым яны падарылі музычныя інструменты, а для асабліва адораных прапанавалі знайсці добрых выкладчыкаў, якім будуць плаціць замежнай валютай.

Дзеці вельмі пасябравалі з нямецкімі гасцямі. Яны разам гулялі ў розныя гульні, спявалі, вучыліся новым словам. І нават слёзным было расставанне. Але сустрэча гэтая не апошняя. Дзве дзяўчынкі хутка паедуць у Германію, дзе ім бясплатна будуць зроблены аперацыі на вачах. А ўлетку 12 маленькіх дулебцаў зноў адпачнуць у Бургайме.

Галіна СІДАРОВІЧ.

ХТО ШУКАЕ, ТОЙ ЗНАХОДЗІЦЬ

## ЯКАСЦЬ НВК ГАРАНТУЕ

**Пакуль ідуць дэбаты, ці патрэбны сёння навучальна-вытворчыя камбінаты, НВК № 2 Фрунзенскага раёна Мінска жыве і не збіраецца здавацца неўтаймаванаму рынку.**

Калі ў мінулым навучальным годзе наведвалі гэты НВК 850 школьнікаў, то ўжо ў бягучым годзе сюды прыйшлі асвоіць рабочыя прафесіі каля 1620 чалавек. А выбар тут немалы: сталяр па рамонту мэблі, слесар па рамонту халадзільнікаў і аўтамабіляў, медыцынская сястра, экскурсавод, прадавец, сакратар-машыністка, мастак-афарміцель, бармэн-буфетчык, бухгалтар. Пры такой разнастайнасці прафесій кожны, хто наведвае камбінат, знойдзе сабе справу па душы.

А для гэтага ў НВК створаны выдатныя ўмовы, працуюць майстэрні з сучасным абсталяваннем, аформлены нагляднымі дапаможнікамі навучальныя класы. Цяжэй было з сыравінай, неабходнай для практычнага навучання.

Але дырэктар Станіслаў Прадко, чалавек энергічны і дзелавы, здолеў наладзіць кантакты з малым прадпрыемствам "Маладзік", якое стала пастаўляць НВК адходы драўніны, металу. Гэта сыравіна выкарыстоўваецца навучэнцамі для вырабу дзвярэй, рам, табурэтак. Дарэчы, гатовых вырабаў ужо столькі, што пры камбінаце дырэктар плануе адкрыць магазін. І якасны і прывабны тавар, без сумнення, знойдзе свайго пакупніка.

Фрунзенскі НВК № 2 паспяхова вырашае праблемы сённяшняга навучання школьнікаў. Ён не толькі дапамагае ім зарыентавацца ў выбары свайго жыццёвага шляху, але і набыць рабочыя прафесіі. Выпускнікоў з задавальненнем запрашаюць гандлёвыя кропкі Мінска, бальніцы, майстэрні.

І добрыя водзывы сведчаць, што атрыманы 3—4 разрад адпавядае набытым у НВК ведам.

У гэтым безумоўныя заслугі педагагічнага калектыву на чале з С.Прадко, а таксама Фрунзенскага раёна і яе загадчыцы Таццяны Замыслаўай.

Аб'яднаўшыся адной мэтай — сацыяльнай абароны нашай моладзі, яны паспяхова вырашаюць задачу дня.

Васіль ШАБОЎТА,
педагог.





## УСЁ ВЫРАШАЕ НАСТАЎНІК

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

старэйшая настаўніца Вера Уладзіміраўна Бялькова. Педкалектыў школы — гэта сплаў вопыту і маладосці. Захавальнікі лепшых традыцый — былыя выпускнікі, а зараз настаўнікі Валянціна Вячаславаўна Доўнар, Тамара Чаславаўна Семянкова, Святлана Тадэвушаўна Давідовіч, Ларыса Пятроўна Шацілава, Галіна Пятроўна Ждановіч, Уладзімір Антонавіч Ждановіч. Пашчасціла школе на арганізатара пазакласнай і пазашкольнай выхаваўчай работы. Менавіта дзякуючы Наталлі Мікалаеўне Садовай сёлета стала больш цікавым пазаўрочнае жыццё вучняў. Добра "асіміляваліся" ў педагагічным калектыве Святлана Канстанцінаўна Міхайлоўская і Наталля Генадзьеўна Краўчук. Яны працуюць у раённым Доме тэхнічнай творчасці, а ў 2-й негарэльскай школе вядуць гурткі мяккай цацкі і вырабаў з саломкі. Папулярны сярод вучняў і драматычны гурток, якім кіруе Алёна Аляксандраўна Пяткевіч.

Школа паступова, мэтанакіравана пераходзіць на беларускую мову навучання. У гэтым навучальным годзе навучанне на дзяржаўнай мове вядзецца з першага па пяты клас. Настаўнікі ахвотна выкладаюць па-беларуску. Шкада, што не хапае падручнікаў — было б лягчэй далучаць дзяцей да роднага слова.

Канечне, пасялковая школа — не ў вакууме. Усе жыццёвыя, найперш эканамічныя і сацыяльныя, узрушэнні закранаюць і яе. Але педагагічны калектыў усё ж не траціць аптымізму, веры ў перамены да лепшага, стараецца трымацца "на плаву". Немалаважна і тое, што са сваімі праблемамі не пакідаюць школу сам-насам раённы аддзел адукацыі і калгас "Чырвоны сцяг". Калгас наладзіў падвоз школьнікаў з бліжэйшых вёсак, аказвае школе і іншую пасільную ў сённяшніх эканамічных умовах дапамогу.

... У "чырвоным куце" сядзелі на свяце ўраджаю аграном калгаса Яўген Іванавіч Яскевіч, брыгадзір комплекснай брыгады Слававар Уладзіміравіч Фалітар, механізатары Аляксандр Глебка і Аляксандр Івашын. Усё было на імпрэзе: і песні, і танцы, і шчырае слова да вучняў агранома, і, канечне ж, багатыя сталы з восеньскімі дарункамі, прысмакамі і духмяным чаем.

Школа жыве з калгасам адным жыццём.

Алесь ЛУНЁЎ.
Юрый БОНДАРАЎ.








ВАЗЬМІЦЕ НА ЗАМЕТКУ

## Падрыхтаваны да выдання

**Горленка В.П. Асновы выхаваўчага ўмельства класнага кіраўніка — бел.8.0 арк.**

У аснову зместу рукапісу пакладзена канцэпцыя выхавання асобы школьніка на аснове цэласнага падыходу. Удала раскрыта методыка арганізацыі выхаваўчай работы, тэхналогія планавання, магчымасці калектыўнага выхавання. Асобныя главы прысвечаны дыягностыцы выхаванасці вучняў і прагназаванню выхаваўчай работы, стымуляванню асобаснага развіцця вучняў.

Падобнага выдання ў краіне няма. Навучальна-метадычны дапаможнік адрасуецца настаўнікам, класным кіраўнікам, студэнтам педагагічных навучальных устаноў.

**Выкладанне правоў чалавека — бел.4.0 арк.**

Навучальны дапаможнік распрацаваны ў ЮНЕСКО, з'яўляецца практычным кіраўніцтвам для настаўнікаў пачатковых і сярэдніх класаў, выхавальнікаў, класных кіраўнікоў па праблемах вывучэння і выкладання правоў чалавека.

Каштоўнасць дапаможніка — у паслядоўнасці, зразумеласці і сцісласці выкладання матэрыяла па маладаследаванай і нераспрацаванай праблеме ў даступнай і вельмі эфектыўнай форме работы — ролевых гульнях.

**Бесава М.А. Пазнавальныя гульні малодшых школьнікаў — рус. 10.0 арк.**

Кніга, адрасаваная настаўнікам пачатковых класаў, выхавальнікам груп прадоўжанага дня, змяшчае метадычны матэрыял па выкарыстанні форм пазнавальнай дзейнасці дзяцей малодшага школьнага ўзросту: гульні-падарожжы (па краіне, па прафесіях, ад А да Я, у зялёную аптэку, у свет жывёл), гульні-конкурсы ("Поле цудаў", "Рыцарскі турнір ветлівасці"), гульні-дыскусіі ("Жалобная кніга прыроды", "Капялюшная дыскусія"), калектыўныя творчыя справы ("Кніжная ярмарка", "У свеце слоў", "За старонкамі падручнікаў") і яшчэ многа іншага, цікавага.

**Гур'янава Л.В. Азбука вадаёма. (Даведніцкая кніга юнага эколага) — рус. 12.0 арк.**

Рукапіс прадстаўляе сабой практычнае кіраўніцтва для правядзення экскурсій у прыроду, знаёмства з воднымі экасістэмамі, правядзення экалагічных даследаванняў, змен, экспедыцый, гуртковых і турысцкіх мерапрыемстваў у сістэме пазакласнай і пазашкольнай работы.

Форма выкладання матэрыялу "пытанне—адказ" значна спрашчае ўспрыманне дастаткова складаных праблем у галіне гідраэкалогіі.

**Арцёменка З.В., Завадская Ж.Я. Азбука форм выхаваўчай работы — бел.9.0 арк.**

Дацэнты Мінскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта З.Арцёменка і Ж.Завадская аб'ядналі ў адным зборніку і сістэматызавалі каля 80 розных форм выхаваўчай работы, распрацавалі методыкі іх падрыхтоўкі і правядзення. Класныя кіраўнікі школ, куратары навучальных груп прафесійных навучальных устаноў, выхавальнікі знойдуць у гэтым дапаможніку цікавы і рознабаковы матэрыял для правядзення выхаваўчай работы з вучнёўскай моладдзю.

**Дзявенская Р.І. "І час новы пойдзе..." — рус. 12.0 арк.**

Пад гэтай назвай выдаецца ўнікальны з пункту гледжання тэорыі і практыкі дапаможнік па фармаванні ў вучняў сярэдніх і старэйшых класаў, навучэнцаў ПТВ экалагічнай культуры. Як у наш складаны экалагічны час выхоўваць у падрастаючага пакалення любоў і павагу да прыроды, як вучыць рацыянальным узаемінам з ёю — гэтыя і іншыя практычныя парады знойдуць тут настаўнікі, выхавальнікі ўсіх тыпаў навучальных і пазашкольных устаноў.

**Жабінская М.П. Адраджэнне беларускай выцінанкі, ч.I — бел.3.0 арк.**

Настаўнікі пачатковых класаў, выхавальнікі, кіраўнікі гурткоў упершыню атрымаюць метадычны дапаможнік па авалоданні адным з відаў народнага мастацтва — выцінанкай. Работа ўдала спалучае ў сабе навукова-тэарэтычную і практычную часткі, якія аўтар праверыла ў рабоце з дзецьмі, і яе прапановы не адарваны ад школьнай практыкі. Самым падрабязным чынам распісаны ўсе заняткі па праграме першага года навучання і методыка выкладання ўрокаў па вырабе выцінанак, даюцца адпаведныя ілюстрацыі, разнастайны літаратурны матэрыял.

**Чэканаў У.Л. Абарона ад радыяцыі — рус. 2,5 арк.**

Папулярна, у даступнай форме тлумачыцца прырода радыеактыўнага выпраменьвання, механізм яго ўздзеяння на жывыя арганізмы і меры па зніжэнні гэтага ўздзеяння.

Матэрыялам дапаможніка могуць карыстацца не толькі настаўнікі паачатковых класаў, выхавальнікі дашкольных устаноў але і бацькі, жыхары забруджаных радыеактыўнымі рэчывамі тэрыторый.

Раённыя аддзелы адукацыі вывучаюць попыт на прапанаваныя да выдання рукапісы, каб выбраць самыя лепшыя з іх і надрукаваць.

С.РУСАК,
загадчык лабараторыі
выхаваўчай работы НМ
Цэнтра вучэбнай кнігі і
сродкаў навучання.

## ДАРОГА НА КУРАПАТЫ

2 лістапада, на Дзяды, у Мінскім кінатэатры "Змена" быў наладжаны прагляд дакументальнага фільма "Дарога на Курапаты". З'явіўшыся яшчэ ў 1990 годзе, фільм убачыў свет толькі сёння. І яго прэм'ерны паказ можа стаць чарговай старонкай у раскрыцці страшэннай тайны Курапатаў.

У маленечкай глядзельнай зале сабралася шмат людзей, многія стаялі. Перад пачаткам фільма выступіў адзін з яго стваральнікаў Зянон Пазняк.

Гледачы пакідалі залу моўчкі. Тыя жахі, якія паказаны ў фільме, нельга ўмомант ні ўспрыняць, ні асэнсаваць.

— Не дай бог, гэтыя д'яблы вернуцца зноў, — усхліпнула жанчына, патушыўшы свечку, што ўвесь час гарэла перад экранам.

Фільм неўзабаве будзе паказаны па тэлебачанні. Пабачце яго абавязкова, і вы лепш зразумееце грамадства, у якім мы жывем.

Галіна СІДАРОВІЧ.



ПАСЛЯСЛОЎЕ ДА КАНФЕРЭНЦЫІ

## Тэатр, які выхоўвае і лечыць

Людзі баяліся хадзіць у тэатр. Штодзень каля яго збіралася больш як дзве сотні падлеткаў. Тут былі і панкі, і рокеры, і металісты, і проста наркаманы. Часта ўсчынялі п'янкі, сваркі і бойкі. Але раптам усё змянілася. Праз чатыры месяцы адбыўся цуд. Тыя самыя нядобранадзейныя падлеткі сталі апантанымі прыхільнікамі тэатра, у якім раней ніколі не былі. Яны атрымалі права бясплатна прыходзіць сюды. Больш таго, панкі і металісты, якія нават не віталіся адзін з адным, сталі ўдзельнікамі аднаго спектакля. Іх парадніў Шэкспір. Вобразы Рамэо і Джульеты давялося ствараць разам. Панкі прадстаўлялі ў спектаклі сям'ю Капулеці, а металісты — Мантэкі... Настойлівыя рэпетыцыі далі добры плён. Нечаканымі артыстамі было дадзена больш пяцідзесяці спектакляў у роднай Польшчы, дванаццаць — у Германіі, два — у Францыі.

— І яшчэ не ўсё, — смяецца Ежы Федаровіч, мастацкі кіраўнік і дырыжор тэатра Людовы з Кракава, — нашы артысты не толькі перасталі хуліганіць, а і пасябравалі. Больш таго — утварыліся чатыры шлюбныя пары і нарадзілася адно дзіця.

Пра гэтую амаль неверагодную гісторыю быў зроблены 19-мінутны фільм, гледачамі якога сталі ўдзельнікі трыянале — "Тэатр — дзецям і Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Псіхалагічная рэабілітацыя дзяцей сродкамі тэатральнага мастацтва", што праходзіла нядаўна ў Мінску па ініцыятыве міністэрстваў адукацыі і навукі, культуры і друку, Беларускага дзіцячага Фонду, Мінгарвыканкама, Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі і Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача.

Вялікі цуд уздзеяння тэатральнага мастацтва на дзіцячую душу зразумелі і адчулі псіхолагі з Масквы. Пра гэта гаварыла ў сваім выступленні "Методыка драматургічнай псіхаэлевацыі" ("Элеварэ" — у перакладзе (лац.) — "узвышае") педагог і драматург з Масквы Таццяна Львоўна Шышова. Яе незвычайная методыка ўздзеяння тэатральнага мастацтва на душу дзіцяці дапамагла рэабілітаваць і вылечыць больш як 400 дзяцей. Многія з іх пакутвалі бранхіяльнай астмай, энурэзам, рознымі нервовымі цікамі. Лячэбна-тэрапеўтычнае ўздзеянне адчулі канфліктныя, сарамлівыя, крыўдлівыя дзеці.

— Выкарчоўваць запраграмаваныя ў характары дзіцяці нейкія сур'ёзныя недахопы не трэба, гэта нават небяспечна, гэтаксама як і, напрыклад, парушаць экалогію прыроды, — адзначыла ў сваім выступленні Таццяна Львоўна. — А вось ператварыць недахоп у вартасць — можна. Скажам, скупога нельга зрабіць шчодрым, але яго можна зрабіць беражлівым. Не варта рабіць супергероем нясмелага, але яго можна зрабіць сціплым...

Дзеці прыходзяць у тэатр, захопленыя ім, і не падазраюць, што яны лечацца. Лячэнне праходзіць у два этапы. Першы этап — лячэнне эцюдамі. Іх восем. Кожны эцюд — маленькая п'еса, якая аказвае лячэбнае ўздзеянне на псіхіку дзіцяці. Другі этап — лячэбны спектакль. Дзеці і бацькі, якія прыходзяць у гэты незвычайны тэатр, атрымліваюць індывідуальныя дамашнія заданні, самі робяць лялькі, дэкарацыі да спектакляў. І зноў тэатр дорыць цуд: фізічна і духоўна аздараўляе сваіх маленькіх пацыентаў.

Выступіла на канферэнцыі і калежанка Таццяны Шышовай — клінічны псіхолаг і драматург з Масквы Ірына Якаўлеўна Мядзведзева. Яна аўтар "Кнігі для цяжкіх бацькоў", дзе, у прыватнасці, адзначаецца, што сям'я ў наш час становіцца адзіным апірышчам традыцыйнага выхавання — у псіхалогіі кожнага чалавека жывуць уласцівасці яго продкаў, спрацоўвае так званая памяць генаў. Мядзведзева прыгадала дадзеныя сацыялагічных даследаванняў уральскіх сацыёлагаў. Як бы ні стараліся сёння аздобіць тэлеэкран чарнухай і парнухай, "забойнымі" амерыканскімі мультыплікацыйнымі серыяламі "в духе времени", усё ж у сваіх адказах пераважная большасць дзяцей аднадушна сцвярджаюць, што "бедныя заўсёды добрыя, яны ніколі не сварацца — праўда, калі толькі не п'яныя", а "дзядзька Скрудж (герой амерыканскага дзіцячага тэлесерыялу) купаецца ў грошах, багаты і скупы".

Так, трэба імкнуцца быць сучасным, але пры гэтым абавязкова ўлічваць ментальнасць славянскай душы, традыцыі яе выхавання. У процілеглым выпадку тыя ж самыя дзіцячыя страшылкі, якія ёсць, бадай, у кожнай краіне, дзецьмі розных рэгіёнаў будуць успрымацца па-рознаму. Заморскія вурдалакі і вампіронышы могуць стаць для ранімай дзіцячай душы не загартоўкай, а атрутай, — зазначыла напрыканцы свайго выступлення Ірына Мядзведзева.

Па-свойму вырашаюць праблемы псіхалагічнай рэабілітацыі дзяцей сродкамі тэатральнага мастацтва ў Германіі. У міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі ў Мінску брала ўдзел трупа "Шнавль" Нацыянальнага тэатра Мангейма.

— Мы прапанавалі ўвазе ўдзельнікаў канферэнцыі нашу работу, якая называецца "Пра гэта не гавораць", — сказаў рэжысёр тэатра з Мангейма пан Флаххубер. — Гэтая пастаноўка ўздымае пытанні палавога выхавання. Дарэчы, тэма да нядаўняга часу табуіраваная ў Германіі. Адрасуецца пастаноўка 10 — 16-гадовым гледачам. Думаю, што знаёмства дзяцей з такімі тэатральнымі спектаклямі стане не толькі далікатнай і шчырай размовай на забароненую тэму, а і папярэдзіць злачыннасць падлеткаў на сексуальнай глебе.

Адметнасць гэтай работы яшчэ і ў тым, што спектакль можна ставіць не толькі на тэатральнай сцэне, а і выязджаць з ім у школы (Думаю, чытачам нашай газеты будзе цікава ведаць, што ў трупе ўсяго 6 акцёраў, якія даюць па 200 спектакляў у год, а кошт білета ў тэатр раўназначны дзвюм паездкам у трамваі).

Адбыўся прагляд спектакляў. Мінскі тэатр юнага гледача прапанаваў "Стваральніцу цуда" (У.Гібсан), Расійскі акадэмічны тэатр моладзі з Масквы — "Страдаўнія вадэвілі" і г.д. Удзельнікі канферэнцыі маглі прасачыць за рэакцыяй дзіцячага гледача на практыцы. У мінскай гімназіі №176 прайшлі заняткі курса "Мастацтва быць гледачом", арганізаваў якія загадчык псіхолага-педагагічнай службы ТЮГа Фрыдрых Модэль.

Вёў канферэнцыю акадэмік, доктар псіхалагічных навук, загадчык кафедры агульнай і дзіцячай псіхалогіі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта Якаў Каламінскі.

Святлана ХОРСУН.

# Нацыянальная педагагічная рада: абмяркоўваем стратэгію рэфармавання адукацыйнай сістэмы

## ЦІ З'ЯВІЦЦА СТЫМУЛ ВУЧЫЦЬ І ВУЧЫЦЦА?

З пункту гледжання практычнага работніка рэфармаванне адукацыі вельмі наспела сёння, бо ніколі не падаў так у грамадстве прэстыж адукацыі, адукаванага чалавека,як зараз. І хаця мы разумеем, што гэта з'ява часовая, пераканаць у гэтым падлетка ў большасці не ўдаецца ні настаўнікам, ні бацькам. І вядзе гэта да таго, што з боку навучэнца наглядаецца яго абыякавасць да вучобы, а з боку настаўніка — ненаўмыснае, а выкліканае пасіўнасцю вучняў зніжэнне якасці навучання. Бо вельмі часта самая цудоўная шматгадзінная падрыхтоўка да заняткаў, прымяненне сучасных сродкаў і прыёмаў вядзення ўрока сутыкаецца з раўнадушшам і абыякавасцю большасці вучняў. І калі будуць вытрыманы ўстаноўленыя этапы рэфармавання, то ўжо ў бліжэйшы час значна зменяцца адносіны як навучэнцаў да вучобы, так і настаўніка да навучання, а ў выніку грамадства атрымае па-сапраўднаму адукаваных людзей, якія навучаны не атрымоўваць веды, а здабываць іх. Імпануе ў прапанаванай стратэгіі тое, што нарэшце можа зменшыцца перагрузка навучэнцаў, а, значыць, з'явіцца больш часу займацца справамі для душы, здароўя, пашырэння сваіх ведаў і інтэлекту. Шматузроўневая, дыферэнцавана-варыятыўная падрыхтоўка, якая прайшла ўжо сваю апрабацыю ў школах, ПТВ, навучальна-вытворчых камбінатах Мінска, сведчыць пра тое, што гэта тая сістэма, якая ўлічвае як патрабаванні грамадства, так і магчымасці навучэнцаў у атрыманні адукацыі і прафесіі. У ПТВ навучэнец атрымае шматпрофільную падрыхтоўку, якая дасць яму магчымасць на высокім узроўні авалодаць адной-дзвюма прафесіямі. Навыкі яшчэ па некалькіх родных спецыяльнасцях дазволяць яму ацаніць свае рэальныя здольнасці, аддаць перавагу таму ці іншаму роду дзейнасці, стымулююць далейшую вучобу або працу. Будзе ў яго і значна больш шанцаў для працаўладкавання. З другога боку, прадпрыемства ў асобе такога выпускніка ПТВ атрымае спецыяліста, які здольны выконваць шырокае кола абавязкаў, што вельмі актуальна для сучаснай мабільнай вытворчасці.

Ранняе выяўленне здольнасцяў дзяцей і падлеткаў зменшыць колькасць памылак пры іхнім выбары навучальнай установы або месца працы, а з другога боку — затраты грамадства на перанавучанне, якія маюць месца у выніку камандных, прымусовых метадаў вызначэння вучнямі школ профілю навучання ў навучальна-вытворчых камбінатах або рэальных класах, а вельмі часта — і ў ПТВ.

У той жа час працэс рэфармавання будзе патрабаваць карэннай перабудовы працы кіруючых і метадычных органаў адукацыі, ад якіх залежыць якасць распрацаванай нарматыўнай, навучальна-метадычнай дакументацыі, літаратуры, падручнікаў, дапаможнікаў на роднай мове, а таксама перападрыхтоўка работнікаў навучальных устаноў, іх пераатэстацыя. А гэта значыць, што першачарговай задачай Міністэрства адукацыі і навукі павінна стаць укамплектаванне органаў кіравання на ўсіх узроўнях высокакваліфікаванымі, творчымі работнікамі, якія, абапіраючыся на вопытныя кадры навучальных устаноў, змаглі б на належным узроўні і аператыўна вырашаць тыя жыццёва неабходныя пытанні, што ставіць прапанаваная стратэгія рэфармавання адукацыйнай сістэмы.

**Анатоль АНІСЬКОЎ,**
інспектар аддзела сярэдняй прафесійнай адукацыі ўпраўлення адукацыі Мінгарвыканкама.

## ...ТАДЫ БУДУЦЬ МЕЦЬ СЭНС УСЕ СЁННЯШНІЯ НАВАЦЫІ

Мне здаецца, пры тым становучым, што мае ў сабе пераход на 12-гадовае навучанне, было б мэтазгодна ўсё ж прыняць за аснову дзевяцігадовую адукацыю. А ў 10-ы клас вучань павінен ісці па сваім жаданні і магчымасцях. Лічу, што дзяржава павінна выдаткаваць сродкі на навучанне тых, хто можа і хоча вучыцца.

Ужо чацвёрты год на базе Мінскага раённага аддзела адукацыі працуе цэнтр па рабоце з адоранымі дзецьмі. Заняткі праходзяць на базе Белдзяржуніверсітэта і грамадска-палітычнага цэнтра. Можна гаварыць, што ўжо ёсць даволі добрыя вынікі. Але ж нашы таленавітыя дзеці павінны быць упэўнены ў тым, што іх творчы патэнцыял запатрабуе грамадства. Тады будуць мець сэнс усе навацыі, якія сёння прапануюцца ў сістэме адукацыі.

Лічу, што не апошняе месца ў рэфармаванні павінна належаць і медыка-псіхолага-педагагічнай службе.

Нашым райана ў гэтым напрамку робяцца пэўныя захады, і небеспаспяхова.

Важнае пытанне — здароўе дзяцей, і фізічнае, і псіхічнае. Існуючыя школьныя праграмы вельмі перагружаны, дзеці нярэдка ўжо ў сярэдніх класах адчуваюць вялікую стомленасць ад школы ўвогуле. Напрыклад, у Даніі, дзе я нядаўна пабываў, навучальная нагрузка ў пачатковых класах — 22 гадзіны ў тыдзень, у базавай школе — па 28. У нас, на жаль, дзеці вымушаны праводзіць у школе ці не 40 гадзін.

Вельмі спадзяюся, што з цягам часу школы набудуць больш поўную самастойнасць. І ў пытаннях падбору кадраў, і ў вырашэнні эканамічна-гаспадарчых праблем. Гэта дасць магчымасць хутчэй укараняць у жыццё ўсе добрыя задумы.

Мяне, як загадчыка райана, не можа не хваляваць пытанне сацыяльнай абароненасці настаўнікаў. Ведаю, што ў многіх месцах месяцамі затрымліваюць выдачу зарплаты настаўнікам, не вырашаюцца жыллёвыя пытанні. Ці зможа школа ў такіх умовах затрымаць свае лепшыя, ды і сярэднія кадры? Вось аб чым трэба неадкладна падумаць.

**Уладзімір ЛІСТРАЦЕНКА,**
загадчык Мінскага райана.

## І СВОЙ ВОПЫТ ШАНАВАЦЬ

Апублікаваныя ў "Настаўніцкай газеце" 26 кастрычніка дакументы Міністэрства адукацыі і навукі па стратэгіі рэфармавання адукацыйнай сістэмы заслугоўваюць уважлівага вывучэння і абмеркавання ўсімі, хто зацікаўлены ў рэформе.

Хацелася б выказаць згоду і падтрымаць прапанаваную структуру сістэмы адукацыі. Яна стройная, лагічная і, самае галоўнае, дыферэнцыявана-варыятыўная. Дае магчымасць асобе мець права выбару ў адпаведнасці з жаданнем, здольнасцямі і мэтай жыцця. У гэтым і ёсць аснова дэмакратызацыі навучання. У людзей можа выклікаць непаразуменне павелічэнне тэрміну навучання ў сярэдняй агульнаадукацыйнай школе да 12 гадоў. Думаю, гэта не механічны перанос замежнага вопыту ў нашы ўмовы. Гэта апраўдана аб'ектыўным жыццём, бо звязана з тым, што з павелічэннем працягласці жыцця чалавека сталасць яго наступае пазней. Дасягненні навукова-тэхнічнага працэсу патрабуюць больш шырокіх і глыбокіх ведаў, асабліва ў прыродазнаўчых навуках, чаго ў кароткі тэрмін дасягнуць немагчыма. Сюды можна аднесці і засваенне дасягненняў чалавечай культуры.

Канечне, галоўнае не ў механічным павелічэнні тэрміну навучання, а ў змесце, тэхналогіі навучання, разумнай паслядоўнасці вывучаемых дысцыплін. Таму лічу, што тэрміны рэфармавання (1994—1996 гады) не рэальныя.

У гэтай вельмі важнай справе не трэба кавалерыйскіх атак. Спачатку трэба распрацаваць ідэалогію навучальнга працэсу, затым адпаведныя праграмы, падручнікі і дапаможнікі, падрыхтаваць выкладчыкаў. Калі настаўнікі не будуць валодаць сучаснымі тэхналогіямі навучання, адпаведнымі ведамі і прафесіямі — рэфармаванне застанецца толькі пажаданнем. Даўно пара ўжо, каб у школах працавалі не толькі выпускнікі педагагічных, а і тэхнічных, эканамічных ВНУ. Любы выпускнік агульнаадукацыйнай школы павінен умець арганізаваць сваё жыццё, ствараць і абслугоўваць сям'ю: умець рыхтаваць ежу, рамантаваць кватэру, мяняць краны, будаваць дачу, садзіць сад, вырошчваць гародніну і г.д. Усяму гэтаму трэба вучыць у школе. Гэта будзе дастойны ўклад школы ў арганізацыю жыцця чалавека. Рэфармаванне адукацыі будзе паспяховым, калі кожны з нас на сваім месцы прыкладзе ўсе свае сілы і веды, каб найлепш зрабіць сваю справу, нягледзячы на цяжкі час, адсутнасць матывацыі працы настаўніка і г.д. Трэба зразумець, што ўсе радыкальныя рэформы ў грамадскім жыцці ва ўсім свеце пачыналіся менавіта з рэфармавання адукацыі. Таму хоць і цяжкае становішча ў эканоміцы, улады, грамадства павінны знайсці сродкі на рэформу.

Хацелася б сказаць, што не трэба захапляцца механічным пераносам замежнага адукацыйнага вопыту. Давайце паслухаем выказванне амерыканскага прафесара Дж. Вейзенбаумана на кангрэсе ЮНЕСКО па адукацыі: "... У ЗША мы маем самую разнастайную сістэму адукацыі ў свеце, самыя лепшыя тэхнічныя сродкі і абсталяванне... і ў сувязі з гэтым многія краіны зайздросцяць нам і лічаць, што арганізацыйная сістэма адукацыі ў нас самая лепшая. Аднак у ЗША прыкладна трэцяя частка ўсяго насельніцтва ва ўзросце да 30 гадоў функцыянальна непісьменная, прыкладна палавіна студэнтаў, якія скончылі 12 класаў агульнаадукацыйнай школы і паступілі ва універсітэт, не могуць пісьменна напісаць ніводнага абзаца на англійскай мове. Такой з'яўляецца сітуацыя, у якой мы апынуліся. Я не бачу выйсця з яе і хачу перасцерагчы вас ад капіравання нашай сістэмы".

З прыведзенага выказвання можна зрабіць вывад, што тэхніка, абсталяванне і арганізацыйная сістэма адукацыі, як наогул і фінансы, далёка не ўсё вызначаюць. Гэта толькі ўмовы. У адукацыі ёсць яшчэ дух! І ён глыбока Нацыянальны. І наўрад ці можна перабрацца з адной дзяржавы ў другую. Гэта значыць, што нам не трэба ахайваць усё, чаго мы дабіліся ў адукацыі, не губіць свайго гонару і не саромецца поспехаў. Яны вельмі значныя, але жыццё ідзе наперад, і рэфармаванне адукацыі жыццёва неабходна. Абавязак кожнага настаўніка, выкладчыка ці кіраўніка любога рангу — унесці адпаведны ўклад у гэтую справу. Грамадзе рэформа пад сілу.

**Сяргей ГУРКО,**
прарэктар Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта.

## НАРОДНЫ ІДЭАЛ ВЫХАВАННЯ,
### альбо ШТО ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ПЕДАГАГІЧНАГА АЛІМПУ

Перш-наперш адзначу, што ў неабходнасці змен у існуючай адукацыйнай сістэме не сумняваецца, здаецца, ніхто — палітыкі і ідэолагі, вучоныя і грузчыкі, рабочыя і пісьменнікі, піянеры і пенсіянеры ўжо дзесяткі гадоў літаральна патрабуюць: хопіць дэмагогіі, трэба дзейнічаць, бо рэаліі сучаснага грамадскага жыцця не дазваляюць марудзіць ніводнай хвіліны! Але ж на практыцы мы да гэтага часу часцей за ўсё бачылі зусім іншае: бясконцыя абяцанні "школы радасці", эклектычныя "праекты" і "канцэпцыі", карпаратыўныя рашэнні па абароне ўсялякіх "асноў", усемагчымыя перайменаванні без змянення сутнасці існуючай адукацыйна-выхаваўчай сістэмы, рост дзіцячай і падлеткавай злачыннасці, духоўную і маральную карупцыю многіх "дзеючых асоб" і г.д.

Здаецца, новы міністр адукацыі і навукі, якога Прэзідэнт Рэспублікі ахарактарызаваў як чалавека рашучага і прынцыповага, настроены дзейнічаць... А калі гэта так, то паўстае "пытанне пытанняў": што менавіта і канкрэтна трэба рабіць?

Пытанне аб мэце выхавання — самая складаная праблема маральнай філасофіі, а вызначэнне гэтай мэты з'яўляецца пробным каменем для ўсялякіх філасофскіх, псіхалагічных і педагагічных тэорый, у тым ліку і для "Стратэгіі рэфармавання адукацыйнай сістэмы ў Рэспубліцы Беларусь".

Калі кажуць, што мэта выхавання заключаецца ў тым, каб зрабіць чалавека шчаслівым, дык адразу ж паўстае пытанне: а што такое шчасце? Агульнавядома, што, бадай, няма ў філасофіі іншага паняцця, на якое людзі глядзелі б так па-рознаму: тое, што аднаму здаецца шчасцем, другому можа паказацца абыякавай абставінай альбо нават проста няшчасцем. Можна смела сцвярджаць, што ў кожнага чалавека сваё асаблівае ўяўленне аб шчасці і што гэтае паняцце ёсць прамы вынік характару людзей, якія, у сваю чаргу, ёсць вынік шматлікіх умоў, бясконца разнастайных для кожнага асобна ўзятага індывіда. Акрамя таго, традыцыйнае (індустрыяльнае) грамадства з яго сістэматычным і іерархічным падзелам працы, складанай і дыферэнцаванай сацыяльнай структурай, не дазваляе вывесці і нейкую "формулу шчасця" для "сярэдняга" чалавека, нацыі і чалавецтва, бо гэты "сярэдні чалавек" — абстрактны сацыяльны тып, які нідзе не сустракаецца ў сапраўднасці.

Не наблізіць нас да ісціны і сцвярджэнне, што мэта выхавання ў тым, каб зрабіць чалавека лепшым і больш дасканалым, таму што ў кожнага чалавека свой асаблівы погляд на чалавечую дасканаласць: тое, што аднаму здаецца дасканаласцю, іншаму можа здацца вар'яцтвам, тупасцю або нават пачварнасцю. Чалавек статыстыкі, аб якім пісаў Кетле, называючы свайго "сярэдняга" чалавека дасканалым чалавекам, зусім непрыгодны для вызначэння мэты выхавання па той простай прычыне, што ў сапраўднасці ён заўсёды аказваецца тыповым абывацелем-прыстасаванцам, які канцэнтруе ў сабе ўсе заганы і дабрачыннасці канкрэтнай гістарычнай эпохі.

Не набліжае, а толькі аддаляе нас ад ісціны і палітыка-ідэалагічны падыход, калі мэтай выхавання абвяшчаецца арыентацыя на нейкі абстрактна-ідэальны ўзор: маўляў, дастаткова толькі змаляваць "ідэальную праграму выхавання" з жыцця нейкага генія, прарока ці мудраца, як пытанне аб мэце выхавання атрымае быццам бы "вечнае" і "абсалютнае" вырашэнне! На жаль, арыентацыя мэты выхавання на ідэал (Сакрат, Хрыстос і г.д.), якую, зразумела, не можа "забараніць" нават самая радыкальная і самая геніяльная тэорыя, неажыццявімая практычна; неажыццявімая менавіта таму, што розныя ва ўсіх адносінах эпохі, нацыі, народы, класы, сацыяльныя групы і асобныя індывіды "гавораць на розных мовах", г.зн. адрозніваюцца адна ад адной па ўсіх сваіх характарыстыках.

Даць кожнаму чалавеку дзейнасць, якая б напраўляла яго душу і магла б напаўняць яе вечна, — вось сапраўдная мэта выхавання, мэта жыцця, таму што мэта гэтая — само жыццё.

Такім чынам, галоўнай мэтай выхавання чалавека можа быць толькі сам чалавек, таму што ўсё іншае ў гэтым свеце (і дзяржава, і нацыя, і чалавецтва, і сродкі вытворчасці, і прадметы спажывання, і г.д.) існуюць толькі для чалавека. У самім жа чалавеку мэту выхавання складае душа, для якой існуе цела. Мэта выхавання душы — даць ёй вечную, па магчымасці, бясконцую і ўсёпаглынальную дзейнасць, гэта значыць, даць чалавеку працу — душэўную, свабодную, якая напаўняе душу, а таксама даць сродкі для выканання гэтай працы. Такая мэта патрэбна для таго, каб пастаянна папаўняць духоўную прастору чалавечай душы, яе арганічнае імкненне да дзейнасці, каб, пастаянна дасягаемая, яна ніколі не магла быць дасягнутай, бо для чалавека важней мець мэту, чым дасягаць яе.

Гісторыя паказала і даказала, што ўсялякі "талмудызм" пры вызначэнні мэты выхавання (інструкцыі, настаўленні, статуты, прадпісанні, распараджэнні і г.д.), усялякія палітыка-ідэалагічныя лозунгі, заклінанні, заклікі і г.д. зусім бяссільныя: выводзячы адкрытае зло, яны пакідаюць зло патаемнае, непараўнальна мацнейшае, чым першае. Такім чынам, размова павінна ісці аб карэнным змяненні існуючай адукацыйна-выхаваўчай сістэмы, а не аб яе касметычным удасканаленні (дарэчы, слова "рэформа" азначае: пераўтварэнне, якое не змяняе сутнасці з'явы).

Аднак калі ўважліва прыгледзецца да абодвух мінадукацыйных дакументаў, калі "глядзець у корань", то можна заўважыць: не вызначыўшы галоўнае — мэту выхавання, — стваральнікі іх далей ідэі ўдасканалення традыцыйнай (індустрыяльнай) сістэмы адукацыі пакуль што не ідуць. Тыя ж змяненні, якія прапануюцца (пераход на 12-гадовы тэрмін навучання ў сярэдняй школе па "формуле" 4+6+2, ліквідацыя перагружанасці школы другарадным навучальным матэрыялам), якія, дарэчы, не з'яўляюцца новымі ні ў ідэйна-тэарэтычным, ні ў практычным сэнсе, асабіста ў мяне выклікаюць толькі пытанне да галоўных дзеючых асоб на педагагічным Алімпе: няўжо незразумела, што, здавалася б, "простая" ідэя пераходу ад цяперашняй адзінаццацігодкі да дванаццацігодкі з'яўляецца ў сапраўднасці, мякка кажучы, "дзяржаўным непаразуменнем (з боку былых міністраў адукацыі), бо іманентна патрабуе істотнага перагляду літаральна ўсіх кампанентаў адукацыйнай сістэмы, якая ствaралася ў апошнія гады (навучальныя планы і праграмы, падручнікі і дапаможнікі і г.д.), прычым ад дзіцячага садка пачынаючы і школай III ступені канчаючы?!

Зразумела, я зусім не "супраць" "формулы" 4+6+2 (наадварот, лічу яе цалкам абгрунтаванай), а тым больш дзвюма рукамі "за" сапраўдную вайну з перагружанасцю школы другарадным навучальным матэрыялам. Інакш кажучы, я толькі хачу сказаць, што любыя рэформы павінны быць падрыхтаваны ідэйна-тэарэтычна нават у дэталях, што іх павінны здзяйсняць кампетэнтныя людзі (чытайце: сацыяльныя тэхнолагі, а не сацыяльныя алхімікі альбо ядзерныя фізікі), што лепш "спяшацца марудна", чым "ламаць дровы"...

Думаецца, што зараз, калі эканоміка краіны ледзь-ледзь "дыхае", калі грамадская думка ніяк не можа вызваліцца ад "летаргічнага сну", улічваючы, што ўсялякія "перабудовы" і "рэформы" не зрабілі нікога з нас "святымі", трэба ўсё ж такі вызначыць тры стратэгічныя задачы:

1) нічога не ламаць, а ўсяго толькі еўрапеізаваць усё тое, што ў нас ёсць і так-сяк працуе;

2) стварыць у Міністэрстве адукацыі і навукі два новыя ўпраўленні: а) муніцыпальных і аўтаномных навучальных устаноў; б) статыстыкі і эксперыментальнай педагогікі;

3) адкрыць, нарэшце, сапраўды шырокую дарогу для наватарскіх даследаванняў па комплекснай праблеме "Адукацыя і выхаванне для XXI стагоддзя", рашуча адмовіўшыся пры гэтым ад усялякага дробнатэм'я, ад педантычна-тэхнакратычных "даследаванняў" і нікчэмна-крахаборскіх "дысертацый" (пісаць інструкцыі для мінадукацыйных чыноўнікаў — не справа вучоных-даследчыкаў).

Я упэўнены, што еўрапеізаваць сістэму адукацыі мы здолеем, бо для гэтага ў нас ёсць усе неабходныя перадумовы. Па-першае, такі варыянт рэформы, на мой погляд, у значнай ступені падрыхтаваны ідэйна-тэарэтычна. У гэтай сувязі адзначу, што міністэрскія "Абгрунтаванне" і "Стратэгія", нягледзячы на іх дэкларатыўнасць і "традыцыйнасць", можна прыняць за аснову, якая дае правільную арыенціроўку. Па-другое, да такога варыянта рэформы ў значнай ступені падрыхтавана і педагагічная грамадскасць (духоўна, маральна, практычна). Па-трэцяе, цяперашні міністр адукацыі і навукі — чалавек смелы, рашучы і прынцыповы, а гэта значыць, што ёсць каму "ўтаймоўваць" нашу вельмі ўспрымальную да ўсялякіх "рэвалюцый" славянскую натуру (праўда, міністр, на мой погляд, ні ў якім разе не павінен забыцца, што педагогіка супрацоўніцтва датычыцца не толькі ўзаемаадносін паміж выхаванцамі і выхавацелямі, але і ўзаемаадносін паміж людзьмі з педагагічнага Алімпа і педагогамі-выхавацелямі).

А зараз — канкрэтныя прапановы і заўвагі.

На мой погляд, галоўная праблема на шляху "еўрапеізацыі" сістэмы адукацыі — перадоленне абстрактнай накіраванасці навучальных планаў, праграм, падручнікаў і дапаможнікаў. Без вырашэння гэтай прынцыповай задачы не можа быць і размовы аб "рэформах", "перабудовах" і г.д.

У тэарэтычным плане сутнасць праблемы даволі зразумелая: навучальныя планы, праграмы, падручнікі і дапаможнікі павінны прыстасоўвацца да жыцця, а не наадварот! На жаль, практычнае вырашэнне гэтай надзвычай важнай праблемы сутыкаецца з шэрагам цяжкасцяў і перашкод, галоўная з якіх — зменлівасць, рухомасць і дынамізм самога жыцця. І — як вынік:

1) мноства людзей не задаволена выбранай прафесіяй (на жаль, на гэты конт няма ніякай статыстыкі, што, між іншым, сведчыць і аб тым, што традыцыйная сістэма адукацыі цалкам прытрымліваецца "формулы Ф.У.Тэйлара": галоўнае — сістэма, а не асоба!);

2) неадпаведнасць патрэб грамадства ў спецыялістах патрэбнай кваліфікацыі і пэўных здольнасцяў асобных індывідаў параджае "замкнёнае кола": патрэбы грамадства растуць (таму што тэхніка і тэхналогіі развіваюцца, удасканальваюцца і ўскладняюцца), а галоўная вытворчая сіла — чалавек — безнадзейна адстае ў сваім інтэлектуальным, маральным і псіхічным развіцці;

3) на перападрыхтоўку спецыялістаў сучаснае грамадства вымушана выдаткоўваць астранамічныя дадатковыя сродкі.

Перáадоленне абстрактнай накіраванасці традыцыйнай сістэмы адукацыі, на мой погляд, немагчыма прынцыпова (у межах традыцыйнай мадэлі!), таму давядзецца (згодзен з В.І.Стражавым) зноў жа ісці традыцыйным шляхам: перарабляць (удасканальваць, "шліфаваць", "мадэрнізаваць" і г.д.) зараз існуючыя планы, праграмы, падручнікі, дапаможнікі, вызваляючы іх ад усяго неістотнага, другараднага; выкарыстоўваць у поўнай меры экстэнсіўны фактар — пераход на 12-гадовы тэрмін навучання; паслядоўна пераходзіць да дыферэнцавана-варыятыўнай мадэлі адукацыі.

Трэба выдзеліць галоўнае звяно ў адукацыйнай сістэме. Гэта дашкольнае выхаванне і агульнаадукацыйная школа. Вельмі важна, на мой погляд, карэнным чынам перагледзець суадносіны паміж уласна адукацыйным і прафесійным кампанентамі адукацыйнай сістэмы. Галоўная задача школы — не падрыхтоўка будучых спецыялістаў у той ці іншай галіне сацыяльнай дзейнасці, а абсалютнае выяўленне творчых здольнасцяў чалавека, развіццё ўсіх чалавечых сіл, безадносна да якога-небудзь загадзя ўстаноўленага маштабу. Хопіць сентыментальна-палітычнай дэмагогіі аб "прафесіяналізме", "кампетэнтнасці" і г.д.! Галоўная задача не ў тым, каб "прыстасаваць" чалавека да нейкай прафесіі (спецыяльнасці), а ў тым, каб прафесію (спецыяльнасць) "прыстасаваць" да чалавека! Мой бацька не ўмее нават пісаць і чытаць, а 33 гады працаваў на трактары і ведаў свайго "сталёвага каня" лепш, чым інжынеры з вышэйшай адукацыяй (дарэчы, быў трактарыстам 1-га класа і нават "на адлегласці" імгненна вызначаў амаль любую няспраўнасць!). А многія курсанты вучэбных падраздзяленняў у танкавай дывізіі асвойваюць за месяц-два найскладанейшую тэхніку лепш, чым самыя таленавітыя выпускнікі ПТВ сваю "любімую" прафесію за тры (!) гады!

І ў заключэнне. Не думаю, што для рэалізацыі праекта "Беларусі — еўрапейскую сістэму адукацыі" патрэбны яшчэ нейкія новыя "фундаментальныя канцэпцыі". Існуе сур'ёзная Канцэпцыя рэформы сістэмы адукацыі, распрацаваная аўтарскім калектывам на чале з У.П.Пархоменкам. Так што наўрад ці ёсць патрэба "вынаходзіць веласіпед". Але не магу не зазначыць, што ад кампетэнтнасці людзей на "педагагічным Алімпе" залежыць вельмі многае, калі не ўсё — настаў час кожнаму супрацоўніку Міністэрства адукацыі і навукі задаць самому сабе некалькі працейшых пытанняў: 1) ці ёсць у мяне ідэі і што гэта за ідэі; 2) ці ёсць у мяне арганізатарскія здольнасці; 3) наколькі я ведаю тэорыю выхавання і гісторыю школы і педагогікі; 4) ці ёсць у мяне маральна-валявыя якасці для рэфармацыйнай дзейнасці.

І апошняе. Усялякія рэформы будуць "рэформамі дзеля рэформ" да таго часу, пакуль не будзе нейкай "лакмусавай паперкі" для агульнанацыянальнага кантролю за іх вынікамі — эканамічнай, сацыяльнай, маральнай эфектыўнасцю. Каб гэты мой вывад стаў зразумелым для ўсіх, адзначу: гатовы задаць праз "НГ" сотні пытанняў на гэты конт. І ўпэўнены, што не атрымаю ніводнай дакладнай лічбы, бо такая статыстыка (напрыклад, аб стане здароўя ўсіх, без выключэння, "дзеючых асоб" сістэмы адукацыі, аб узроўні ведаў вучняў і студэнтаў па "гарызанталі" і ў дынаміцы, аб эфектыўнасці прафесійнай арыентацыі і г.д., і да т.п.) традыцыйную сістэму адукацыі і выхавання не цікавіць наогул.

**Леанід МАТЫЛЁНАК.**

Мінск.

У ДАПАМОГУ НАСТАЎНІКУ І ВУЧНЮ

# Сусветная гісторыя

## 10 клас

## ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ СТАРАЖЫТНАГА РЫМА

### § 12—13. ЗАРАДЖЭННЕ І СТАНАЎЛЕННЕ СТАРАЖЫТНА-РЫМСКАЙ ЦЫВІЛІЗАЦЫІ

#### ГЕАГРАФІЧНАЕ І ЭТНІЧНАЕ АСЯРОДДЗЕ СТАРАЖЫТНАЙ ІТАЛІІ

Палітычная гісторыя старажытнарымскай цывілізацыі распадаецца на царскі (VIII—VI стст. да н.э.) рэспубліканскі (V—I стст. да н.э.) і імператарскі (I—V стст. н.э.) перыяды. Цэнтральным геаграфічным рэгіёнам старажытнарымскай цывілізацыі быў Апенінскі паўвостраў, які стаў з часам называцца Італіяй ("краінай цялят"). У гаспадарцы ранняга Рыма рашаючую ролю адыгрывала жывёлагадоўля. Цяжкія глебы і густыя лясы не садзейнічалі развіццю земляробства, і толькі з масавай вытворчасцю стальных прылад працы, з VIII ст. да н.э., у Італіі атрымала развіццё і хлебаробства. Прычым на Апенінах больш урадлівых зямель, чым на Балканах. Асноўныя прыродныя багацці Італіі — мармур, гліна і кухонная соль.

Медзь і жалеза здабываліся толькі ў Этрурыі і на востраве Ільва. У канцы II тыс. да н.э. з прыдунайскіх абласцей на Апеніны перасялілася група індаеўрапейскіх плямён, якія аб'яднаны агульнай назвай "італікі". У пачатку I тыс. да н.э. сюды прабраліся і этрускі, якія ў VII—VI стст. да н.э. устанавілі сваё панаванне ў Сярэдняй і Паўночнай Італіі. У эпоху грэчаскай каланізацыі ў паўднёвай Італіі і на востраве Сіцылія з'яўляюцца шматлікія калоніі грэкаў, і ў выніку ўвесь гэты рэгіён атрымлівае назву Вялікай Грэцыі. На рубяжы V—IV стст. да н.э. з поўначы ў Італію ўварваліся кельты, якіх рымляне называлі галамі. У цэнтры Італіі, на ўрадлівай лацінскай раўніне, у вусці ракі Тыбр у сярэдзіне VIII ст. да н.э. узнік горад Рым. Дата ўзнікнення Рыма (753 г. да н.э.) лічыцца пачаткам царскага перыяду. Рым аказаўся шматнацыянальным пасяленнем, якое паступова ўвабрала ў сябе племянныя групы лацінаў і сабінаў, а пасля і этрускаў.

#### УЗНІКНЕННЕ РЫМА. ЦАРСКІ ПЕРЫЯД (VIII—VIстст. да н.э.)

Па легендзе, заснавальнікам Рыма быў Ромул, нашчадак траянскага царэвіча Энея, які збег пасля падзення Трои ў Лацый. Згодна з гістарычнымі данымі, Рым узнік з аб'яднання (сінайкізму) абшчын, якія будаваліся на змешаным кроўнароднасным і суседскім прынцыпе. Як родаплемяннoе аб'яднанне раннерымскае таварыства складалася з 300 родаў. Членаў аднаго роду аб'ядноўвалі агульныя зямельныя ўгоддзі, падзеленыя паміж сем'ямі, што ўваходзілі ў род, а таксама агульныя божаствы і агульны рэлігійны культ. Члены роду вялі сваё паходжанне ад агульнага продка і мелі агульнае родавае імя. Родаплемянная арганізацыя рымскага народа рана стала дапаўняцца, а затым і выцясняцца тэрытарыяльным дзяленнем. Асноўнай вытворчай ячэйкаю ўнутры родавай абшчыны з'яўлялася вялікая патрыярхальная сям'я, фамілія. У рымскую фамілію ўваходзілі кліенты і рабы. Кліенты — залежнае саслоўе, якое складалася са збяднеўшых або згубіўшых родавыя сувязі рымлян, што шукалі заступніцтва ў багатых і ўплывовых суграмадзян, патронаў. Пазней кліентамі рабіліся асобныя плебеі і вольнаадпушчанікі. Кліенты прымаліся ў род патрона і насілі яго родавае імя. Па прафесіі гэта былі земляробы, рамеснікі, пастухі. Члены рымскай родавай арганізацыі складалі прывілеяванае саслоўе патрыцыяў. Аднак у раннерымскім грамадстве значная частка свабоднага насельніцтва не ўваходзіла ў патрыцыянскія роды, і іх правы былі значна абмежаваныя. Гэта было саслоўе плебеяў. Невялікія прысядзібныя ўчасткі плебеяў складалі 2 югеры (каля 1/4 га). На чале раннерымскай абшчыны стаяў выбарны цар, які сумяшчаў функцыі жраца, военачальніка, заканадаўцы і суддзі. Пры цару існаваў савет, які ў Рыме называўся сенатам. Справы ўсёй абшчыны, уключаючы і выбары яе цара, рашаў народны сход.

Цару Сервію Тулію (VI ст. да н.э.) рымская традыцыя, зафіксаваная ў гістарычных творах старажытных і сярэдневяковых аўтараў, прыпісвае ўвядзенне маёмаснага цэнзу і тэрытарыяльнага дзялення Рыма. Цэнз дзяліў усё рымскае насельніцтва на шэсць маёмасных разрадаў, па-рымску "класаў". З гэтых класаў утваралася войска і народны сход. Беднякі не мелі сродкаў на ўзбраенне і таму не служылі ў арміі. У народным сходзе, які збіраўся па цэнтурыях, дзе кожная сотня мела адзін голас, багатая частка грамадзян, меўшая колькасную перавагу, вызначала зыход галасавання. Цэнзавая рэформа Сервія Тулія аслабіла ўплыў родавай знаці. Яна давала магчымасць людзям нерадавітым, якія нажылі сабе багацце прыбытковымі заняткамі, перайсці ў больш высокі маёмасны клас.

#### БАРАЦЬБА ПЛЕБЕЯЎ СУПРАЦЬ ПАТРЫЦЫЯЎ

Першыя стагоддзі рэспублікі (V—сярэдзіна III ст. да н.э.) ва ўнутранай гісторыі Рыма былі звязаны з барацьбой плебеяў за свае эканамічныя і палітычныя правы, у знешняй — з заваяваннем Італіі.

У аснове барацьбы плебеяў супраць патрыцыяў ляжалі пазыковае і аграрнае пытанні. Зямля дзялілася ў Рыме на прыватную і грамадскую. Невялікія прысядзібныя ўчасткі мелі і плебеі, права ж неабмежаванай арэнды грамадскага поля, агер публікус, захоўвалася толькі за патрыцыямі. Аграрнае пытанне было вырашана ў Рыме за кошт заваяванняў абшчын і плямён Апенінскага паўвострава, на землі якіх рымляне пачалі выводзіць калоніі. У іх і высяляўся лішак аграрнага насельніцтва, перш за ўсё плебеі. Частка ж зямель пакораных італікаў папаўняла рымскі фонд агер публікус. Эканамічнае панаванне патрыцыяў, якія акупіравалі вялікія ўчасткі грамадскага поля пад пасевы і пашы, дапаўнялася іх засіллем у палітычных справах: патрыцыі займалі ўсе кіруючыя пасты ў рымскай абшчыне і адвольна тлумачылі нормы вуснага права. Дзейнасць суда і народнага сходу накіроўвалася патрыятам.

У сярэдзіне V ст. да н.э. пад націскам плебеяў быў зроблены запіс норм права, якое дзейнічала ў Рыме. Тэкст "Законаў XII табліц" быў высечаны на пліце і ўстаноўлены на форуме, цэнтральнай плошчы горада. Паколькі кадыфікацыю права праводзілі патрыцыі, шэраг артыкулаў "Законаў" быў накіраваны супраць плебеяў: забараняліся міжсаслоўныя шлюбы, пазыковае права заставалася надта жорсткім. Як і шэраг іншым ранніх заканадаўчых зводаў старажытнасці, "Законы XII табліц" рэгулявалі правілы судаводства, права ўласнасці і здзелкі куплі-продажу, а таксама пазыковае і сямейнае права.

На працягу другой паловы V і ў IV ст. да н.э. плебеі дабіліся ад патрыцыяў новых уступак: дазваляліся шлюбы паміж патрыцыямі і плебеямі, пастановы плебейскіх сходаў па трыбах урoўніваліся з законамі, прынятымі ў цэнтурыятных каміцыях. Была абмежавана колькасць арандаванай зямлі з фонду агер публікус—на кожную сям'ю можна было мець не больш як 500 югераў (каля 125 га). Спецыяльна прынятым у канцы IV ст. да н.э. законам у Рыме забаранялася пазыковая кабала і заняволенне грамадзян. Неаплатны даўжнік адказваў цяпер сваёй маёмасцю, асоба яго заставалася пры гэтым недатыкальнай. Нарэшце, знатныя плебеі атрымалі доступ у жрэцкія калегіі і консулат. Больш чым 200-гадовая барацьба саслояў закончылася, і ў Рыме склалася новая патрыцыянска-плебейская знаць — набілітэт.

#### ПАЛІТЫЧНЫ І САЦЫЯЛЬНЫ ЛАД РЫМСКАЙ АБШЧЫНЫ

У выніку перамог плебсу Рым к пачатку III ст. да н.э. ператварыўся ў грамадзянскую абшчыну, цывітас, аналагічную грэчаскаму полісу. Рымская цывітас, як і грэчаскі поліс, мела рэспубліканскую форму праўлення, структурнымі элементамі якой з'яўляліся народны сход (каміцыі), савет старэйшын (сенат) і выбарныя службовыя асобы (магістраты). Вышэйшым заканадаўчым і выбарчым органам быў народны сход. Асаблівасцю рымскай магістратуры з'яўлялася яе бязвыплатнасць: займаць нейкі пост было гонарам, па-рымску "honor", які не прадугледжваў матэрыяльнага ўзнагароджання. Вышэйшыя магістраты (консулы, прэтары, цэнзары) валодалі сукупнасцю грамадзянскіх, юрыдычных, ваенных і судовых паўнамоцтваў, якія называліся ў Рымскай рэспубліцы імперыем.

Рымскі народ, популюс раманус, лічыўся носьбітам вярхоўнай улады. Народны сход выбіраў і ўручаў уладу (імперый) магістратам, усе рашэнні сената мелі формулу "Сенат і народ рымскі пастанавіў". У галіне крымінальных пакаранняў за вінаватым заўсёды заставалася права апеляцыі да народнага сходу, якое магло адмяніць рашэнне любога магістрата аб пакаранні. Міжнародныя дагаворы таксама заключаліся ад імя рымскага народа, а армія насіла назву "войска народа рымскага".

#### ЗАВАЯВАННЕ РЫМАМ ІТАЛІІ

У выніку шматлікіх войнаў, якія запоўнілі V і IV стст. да н.э., рымляне падпарадкавалі плямёны італікаў, якія жылі ў Цэнтральнай і Паўночнай Італіі. Гэта былі лаціны, этрускі, самніты, вольскі, эквы, сабіны і іншыя плямёны. На заваяваныя тэрыторыі выводзіліся калоніі рымскіх пасяленцаў. У V ст. да н.э. было заснавана 10 калоній, у IV ст. да н.э. — 15. У першай палове III ст. да н.э. Рым прыступіў да планамернага наступлення на поўдзень Італіі, дзе жылі грэкі. Горад Тарэнт, адна з буйнейшых грэчаскіх калоній гэтага рэгіёна, звярнуўся за дапамогай да цара Эпіра Піру. У 280 г. да н.э. Пір з 25-тысячнай наёмнай арміяй і 20 баявымі сланамі высадзіўся ў Італіі і ў дзвюх бязлітасных сутычках разбіў рымлян. Аднак другая бітва каштавала Піру такіх вялізных страт, што пасля яе заканчэння ён быццам бы сказаў: "Яшчэ адна такая перамога, і мне не з кім будзе вярнуцца ў Эпір". Адсюль і паходзіць выраз "Пірава перамога". Пір у хуткім часе пакінуў Італію, і пад уладу рымлян перайшлі і паўднёваіталійскія грэчаскія гарады. Так Рым стаў на чале федэрацыі італійскіх плямён і гарадоў. Большасць італікаў знаходзілася ў становішчы саюзнікаў Рыма. Яны захоўвалі ўнутраную аўтаномію, але пазбаўляліся права на самастойную знешнюю палітыку і былі

(Заканчэнне на 4-й стар.)

# Сусветная гісторыя

## 10 клас

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)

абавязаны пастаўляць Рыму ваенныя кантынгенты. Частка зямлі саюзнікаў перайшла да рымлян і папоўніла іх грамадскі зямельны фонд.

### АД РЫМА-ПОЛІСА ДА РЫМА-ІМПЕРЫІ

Падпарадкаваўшы Італію, Рым паспрабаваў распаўсюдзіць сваю ўладу і на багаты востраў Сіцылію, які здаўна з'яўляўся сферай уплыву карфагенян, або пунійцаў. Карфаген — мацнейшая гандлёвая і марская дзяржава Заходняга Міжземнамор'я, якая валодала калоніямі на ўзбярэжжы Паўночнай Афрыкі, у Паўднёвай Іспаніі, Сіцыліі і Сардзініі. Сутыкненне інтарэсаў рымлян і карфагенян у Сіцыліі прывяло ў сярэдзіне III ст. да н.э. да 1-й Пунічнай вайны, у ходзе якой рымляне стварылі ўласны флот і ў выніку атрымалі перамогу над пунійцамі. Па ўмовах мірнага дагавора частка Сіцыліі пераходзіла пад уладу рымлян і станавілася першай рымскай правінцыяй. Правінцыямі рымляне называлі заваяваныя тэрыторыі, размешчаныя за межамі Апенінскага паўвострава і якімі кіравалі намеснікі, пасланыя з Рыма. Карфаген, аднак, хутка акрыяў ад страт і зноў уступіў у барацьбу за панаванне ў Міжземнамор'і. Гэта тлумачылася перш за ўсё шырокімі гандлёвымі інтарэсамі гэтай дзяржавы. У багатай серабром Паўднёвай Іспаніі Карфаген заснаваў новую калонію і пачаў цясніць саюзныя Рыму іспанскія гарады і абшчыны. Разбурэнне горада Сагунта і паслужыла зачэпкай да пачатку 2-й Пунічнай вайны (218—201 гг. да н.э.). Адзін з самых таленавітых палкаводцаў старажытнасці, Ганібал, нечаканым для рымлян маршам правёў цераз Пірэнеі і Альпы сваю армію ў Паўночную Італію, дзе атрымаў некалькі буйных перамог. Рашаючая бітва 2-й Пунічнай вайны адбылася ў жніўні 216 г. да н.э. у Апуліі, каля мястэчка Каны. Армія Ганібала была амаль удвая меншай за рымскую: 40 тыс. пяхоты і 14 тыс. конніцы. Ганібал выставіў у напрамку да праціўніка цэнтр, дзе паставіў больш слабыя свае часці, а на флангах ён размясціў адборныя войскі, пастроеныя глыбокімі калонамі. Калі рымляне атакавалі выстаўлены цэнтр пунійцаў і пачалі цясніць яго, яны паступова ўцягнуліся ў мяшок паміж карфагенскімі флангамі. Давяршыла акружэнне моцная конніца Ганібала, якая адкінула рымскіх коннікаў і навалілася з тылу на рымскую пяхоту. Пры Канах загінула каля 50 тыс. рымскіх воінаў разам з консулам. Многія саюзнікі адышлі ад Рыма і перайшлі на бок Ганібала. І ўсё ж рымляне, праявіўшы свае лепшыя якасці мужных воінаў і ўмелых дыпламатаў, выстаялі. Прычым рымляне перайшлі ад адкрытых бітваў да тактыкі дробных сутычак і "выпаленай зямлі", вымотваючы армію Ганібала, якая была адарвана ад сваёй краіны і не мела рэгулярнага людскога папаўнення і сыравінных баз. Урэшце таленавіты рымскі палкаводзец Публій Карнелій Сцыпіён, празваны потым Афрыканскім, выцесніў карфагенян з Іспаніі і перанёс баявыя дзеянні на тэрыторыю Паўночнай Афрыкі. У 202 г. да н.э. Ганібал быў, нарэшце, разбіты і Карфеген здаўся на літасць пераможцы. Рым патрабаваў выплаты вялізнай кантрыбуцыі, выдачы баявых сланоў і флоту. Жыхары гарадоў поўдня Італіі, якія падтрымалі Ганібала, былі прададзены ў рабства, а іх землі далучаны да рымскай грамадскай зямлі.

Забяспечыўшы свае інтарэсы ў заходняй частцы Міжземнага мора, рымляне павярнуліся на Усход і ўмяшаліся ў справы эліністычных дзяржаў. Заключаючы пачаргова саюзы з асобнымі эліністычнымі дзяржавамі, Рым на працягу II ст. да н.э. падпарадкаваў іх і ператварыў у свае правінцыі. У выніку кароткай 3-й Пунічнай вайны быў сцёрты з твару зямлі і Карфаген, а яго тэрыторыя заарана і праклята рымлянамі. Так узніклі заморскія ўладанні Рыма, правінцыі Сіцылія, Сардзінія, Іспанія, Македонія, Азія і Афрыка.

### ПОЗНЯЯ РЭСПУБЛІКА. КРЫЗІС ПОЛІСНЫХ СТРУКТУР

Пасля пакарэння Заходняга і Усходняга Міжземнамор'я Рым ператварыўся ў новую сусветную дзяржаву. У арганізацыі правінцыі рымляне паўтарылі вопыт падпарадкавання Італіі, яны заключалі з залежнымі дзяржавамі няроўныя дагаворы. Правінцыяльныя гарады абкладаліся падаткам, частка заваяваных тэрыторый ператваралася ў грамадскае поле. Немалая доля гэтай зямлі асядала ў багатых рымскіх грамадзян. Калоніі пачалі выводзіцца і ў правінцыі, што садзейнічала хуткаму распаўсюджанню лацінскай мовы і рымскай культуры. Пачаўся працэс раманізацыі правінцыяльнага насельніцтва. Паколькі адміністрацыя правінцый была нешматлікай, збор падаткаў пачалі аддаваць у Рыме на водкуп прыватным асобам, публіканам. Яны выплачвалі ў дзяржаўную казну пэўную суму грошай, а затым значна больш бралі з мясцовага насельніцтва. Яшчэ адной формай узбагачэння была здабыча, захопленая ў час чарговай паспяховай ваеннай кампаніі. Гісторык Палібій, які жыў у II ст. да н. э. і напісаў "Сусветную гісторыю" ў 40 кнігах (частка іх захавалася), расказвае аб арганізаванасці рымскага грабяжу. Ён праводзіўся, як правіла, пасля разні мірнага насельніцтва і па камандзе вышэйшых камандзіраў, якія кіравалі затым дзеляжом награбленага. Важнейшай часткай такой здабычы былі палонныя, якіх потым распрадавалі на спецыяльных нявольніцкіх рынках. Напрыклад, у цэнтры гандлю рабамі на востраве Дэлас прадавалі часам да 10 тыс. рабоў штодзённа.

Рабская праца выкарыстоўвалася ў разглядаемы перыяд ва ўсіх галінах рымскай вытворчасці. Захаваўся трактат рымскага цэнзара пачатку II ст. да н.э. Катона Старэйшага "Аб сельскай гаспадарцы". Рад месцаў гэтага трактата прысвечаны характарыстыцы працы сельскіх рабоў, якіх Катон раіць падвяргаць максімальнай эксплуатацыі. "Праца стрымлівае раба ад крадзяжу", а таму і ў святы рабы павінны быць заняты справай: рамантаваць дарогі, пабудовы, вырошчваць сады. У непагадзь належыць прымушаць рабоў вывозіць гной, мыць і смаліць бочкі, скручваць канаты. Але беражлівасць гаспадара патрабавала падтрымліваць рабоў у рабочым стане, і таму Катон дае павучанні аб аптымальным рацыёне харчавання і адзенні рабоў. У цэлым жа рымскія рабы захоўвалі рысы чалавечай асобы: яны маглі мець сям'ю, выступаць у справах у якасці паручыцеля і карыстацца абаронай магістратаў у выпадку асаблівай жорсткасці да іх з боку гаспадароў. Рабы нярэдка кіравалі маёнткамі сваіх гаспадароў і атрымлівалі ад іх у карыстанне нейкую маёмасць, так званы пекулій. У якасці пекулія маглі быць выкарыстаны і зямельны ўчастак, і лаўка, і рамесная майстэрня. Прычым працавалі тут рабы — вікарыі, "намеснікі" рабоў, уладальнікаў пекулія.

Адносна танная рабская праца складала канкурэнцыю працы дробных вольных вытворцаў, якія паступова даходзілі да жабрацтва і разарэння. Масавае разарэнне земляробаў тлумачыцца і пастаянным прымусам іх удзельнічаць у шматлікіх ваенных паходах. Гэта надоўга адрывала сялян ад гаспадаркі. Да таго ж у Рым пачалі паступаць з правінцый адносна танныя сельскагаспадарчыя прадукты, перш за ўсё хлеб. Набывала таварнасць і рымскае памесце. Гаспадарка сярэдняй велічыні, віла, насіла, як правіла, шматгаліновы характар. Тут вырошчвалі вінаград, аліўкі, агародніну і фрукты. Высокая таварнасць і спецыялізацыя былі характэрны і для падгароднай гаспадаркі, якая пастаўляла ў гарады ранкюю агародніну і іншыя дарагія фрукты, кветкі. Існавалі і спецыяльныя птушнікі, у якіх разводзілі як дарагіх і рэдкіх "афрыканскіх курэй", паўлінаў, так і больш простых, якія таксама прыносілі вялікі прыбытак. Дастаткова распаўсюджанай з'явай былі і жывёлагадоўчыя гаспадаркі, якія давалі мяса, малако і воўну, што адпраўляліся ў гарады для перапрацоўкі. Многія гарады Італіі спецыялізаваліся на вытворчасці пэўных рамесных вырабаў. Увесь буйны гандаль таго часу быў марскім, у яго ўжо было ўцягнута практычна ўсё Міжземнамор'е.

Нажыўшы вялізныя багацці, сенатары і коннікі ўкладвалі іх у набыццё зямлі, якая стала ў эпоху Позняй рэспублікі звычайным прадметам куплі-продажу. Яны ж былі і ўладальнікамі вялікіх масіваў грамадскай зямлі, якія выкарыстоўваліся звычайна пад пашы. Даведзеныя да галечы земляробы ператвараліся ў падзёншчыкаў або сезонных зборшчыкаў, частка з іх збегла ў гарады або ў правінцыі. Толькі ў г. Рыме ў сярэдзіне I ст. да н.э. 320 тыс. чалавек не мелі пастаяннай работы і жылі за кошт бясплатных хлебных раздач. Відныя палітычныя дзеячы таго часу ўключалі ў свае перадвыбарныя праграмы распродаж таннага прывазнога хлеба або яго раздачу бяднейшым грамадзянам, наладжванне за свой кошт публічных відовішчаў. Лозунг рымскіх пралетарыяў (гэта значыць людзей, якія мелі толькі патомства, "пралес") "Хлеба і відовішчаў" увайшоў у пагаворку і стаў агульным выразам.

Паступова мяняўся і характар рымскай арміі. Абавязковая служба мужчын-грамадзян, якія валодалі пэўным маёмасным цэнзам, стала немагчымай: з аднаго боку, забяспечаныя рымляне імкнуліся ўхіліцца ад службы, з другога — з'явіўся цэлы слой людзей, для якіх вярбоўка ў армію і атрыманне рэгулярнага жалавання за службу было выйсцем з бядотнага становішча. У выніку ў канцы II ст. да н.э. сістэма прызыву была канчаткова заменена сістэмай вярбоўкі добраахвотнікаў. Армія рабілася рэгулярнай і прафесійнай. На I ст. да н.э. прыпадае мноства грамадзянскіх войнаў, зыход якіх рашалі тыя палітыкі і палкаводцы, за якімі стаяла армія. Армія выступала як самастойная палітычная сіла.

(Працяг будзе)

# НАША ЧЫТАЛЬНЯ

## ПРЫРОДЖАНЫ ГУМАРЫСТ

Заўтра спаўняецца 60 гадоў Івану Курбеку, гарачаму прыхільніку і нястомнаму прапагандысту творчасці народных песняроў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Нямала гадоў ён прапрацаваў у Літаратурным музеі Янкі Купалы, а цяпер прадаўжае руліцца ў Літаратурным музеі Якуба Коласа.

Доўгі час Іван Курбека арганізоўвае і ўдала праводзіць у аўдыторыях, па радыё і тэлебачанні вечарыны, прысвечаныя ўшанаванню памяці абодвух народных паэтаў і з'яўляецца адным з складальнікаў альбомаў, календароў і кніг успамінаў пра іх жыццё і творчасць.

Разам з тым, як трапна адзначыў народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін у невялічкай прадмове да зборніка "Абы здароўе", што выходзіў у бібліятэчцы "Вожыка", Іван Курбека — прыроджаны гумарыст.

Ён вельмі дасціпна імітуе галасы многіх нашых пісьменнікаў і дзеячаў мастацтва, а таксама піша гумарыстычныя вершы, мініяцюры і каламбуры для дарослых, шарады, метаграмы, лагарыфы і анаграмы для дзяцей.

З вялікай цікавасцю ўспрымаліся чытачамі яго "Гэты мала лагічны слоўнік" і выслоўі-выверты, якія друкаваліся ў "Вожыку", "Літаратуры і мастацтве", "Настаўніцкай газеце" і "Беларускай думцы". І цяпер "Тлумачальны слоўнік" пад рэдакцыяй Івана Курбекі, што змяшчаецца на старонках часопіса "Тэатральная Беларусь", некаторых газет і ў календары "Родны край", папаўняе наш лексікон.

У свой час "Мастацкая літаратура" выдавала калектыўную кнігу сатыры і гумару "Асцюкі за каўняром", у якую ўвайшло нямала гумарыстычных вершаў і мініяцюр пісьменніка.

У 1991 годзе выдавецтва "Юнацтва" выпусціла яго зборнік для дзяцей "Хітрыя літары", а ў выдавецтве "Навука і тэхніка" летась з прадмовай Уладзіміра Юрэвіча выйшаў займальны дапаможнік для ўдасканалення мовы "Руска-беларускія крыжасловы" Івана Курбекі.

Калегі па працы, сябры і прыхільнікі таленту Івана Курбекі сардэчна віншуюць гумарыста з 60-годдзем і жадаюць яму добрага здароўя і новых творчых поспехаў на ніве роднага слова.

Мікола АЎРАМЧЫК.

НА ЗДЫМКУ: І.Курбека (у цэнтры) з супрацоўнікамі свайго аддзела Л.Бяляцкай і М.Жыгоцкім.

АЛЕСЬ СТАВЕР

## ГІМН ХАРАСТВУ

*Жане Таргонскай*

Што за сэрца маё? Ні спакою яму, ні спачыну...
Ох і доля ў мяне, — у дарозе ўвесь час, нахаду...
Думаў, вершы лірычныя я назаўсёды пакіну,
На жыццёвую прозу нарэшце зусім перайду.

Ажно бачу: жанчына ідзе па квітнеючым садзе, —
Маладая такая, — магчыма гадоў дваццаці.
Невыказныя чары ў яе прамяністым паглядзе,
Ну, а вусны — суніцы, — аж нельга вачэй адвясці.

На яе гібкі стан, на яе стройна-белыя ногі
Ападалі пялёсткі, — ды так асцярожна, як пух....
Я пад вішняй сядзеў пасля доўгай чарговай дарогі,
І ад з'явы такой заняло нечакана мой дух.

Я не ведаю імя яе і хто ёю абраны,
Ды ад сэрца жадаю, — каб толькі шчаслівa жыла,
Каб абраннік яе быў да смерці ў яе закаханы,
Каб яна між людзей незвычайнаю песняй слыла.

Я ж ад песні такой зберагу маладосці надзею,
Зачарую людзей прыгажосцю і музыкай слоў.
Буду славіць вясну і ў садзе квітнеючым фею,
Што вярнулі мяне да лірычных напеваў ізноў!

## СВІЦЯЗЯНКА

Сінім вечарам, ці сінім ранкам, —
Як засвеціць расой сенажаць, —
Свіцязянка, мая свіцязянка,
Выйдзі, выйдзі мяне сустракаць.

За табой, як за песняй-заранкай,
Я пайду да квяцістых лугоў.
Свіцязянка, мая свіцязянка,
Чараўніца маіх юных сноў.

Для цябе кветку шчасця, вяснянка,
Адшукаю ў любую пару.
Свіцязянка, мая свіцязянка,
Я каханне табе падару.

Сінім вечарам, ці сінім ранкам, —
Як засвеціць расой сенажаць,
Свіцязянка, мая свіцязянка,
Выйдзі, выйдзі мяне сустракаць...

## СЛАЎСЯ, МІР

Вечар сыпануў на неба зорак,
Апавіў прасторы цішынёй,
Выбегла бярозка на пагорак, —
Падзівіцца зорнай вышынёй.

Стройная, у свежым аксаміце,
Як брыльянты, на лістах раса.
Салавей, ачнуўшыся ў ракіце, —
Заспяваў на розных галасах.

Зорны водсвет і бярозкі ўзоры.
Над ракітай трэлі пачуцця,
Спавілося ўсё ў зямным прасторы
У адну гармонію жыцця.

Слаўся, мір! Славутай будзь, Айчына, —
Дзе так люба жыць і працаваць,
Дзе прыгожа з песняй салаўінай
І чакаць, і верыць, і кахаць.

## ХТО САМ МОЖА ПЕСНЮ СВАЮ ПРАСПЯВАЦЬ

Сярод рэдакцыйнай пошты часта сустракаюцца паэтычныя творы, дасланыя работнікамі школ. Што пабуджае брацца за пяро настаўнікаў у такі цяжкі час, поўны нечаканасцяў, супярэчнасцяў? Адзінае пачуццё кіруе памкненнямі і думкамі людзей — выказаць свае пачуцці ў вершаванай форме, прыгадаць мінулае, апісаць пражытае і перажытае, парадавацца роднай прыродзе і ўсё гэта перадаць роднай мовай.

Нізку добрых вершаў даслала ў рэдакцыю настаўніца Алена Паўлаўна Дунькові з Равінскай школы Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці. Яна імкнецца ў паэтычных фарбах намаляваць тое, што яе хвалюе, непакоіць. Аўтарка піша ў сваім лісце: "Вельмі люблю дзяцей. Сярод настаўнікаў у мяне шмат шчырых сяброў. Паважаю творчых і самаадданых людзей".

Чытаючы вершы, адчуваеш, што яна добра валодае словам, мова вершаў сакавітая, вобразная, лаканічная. Алена Паўлаўна пазбягае лішніх слоў, думку да чытача даносіць проста, даходліва. Піша пра тое, што перажыла, бачыла, пачула. Свежасцю вее ад верша "Дождж": Сёння дождж — паслухмяны і цёплы...

Або:

Скачуць дробныя кроплі
па дрэвах,
Шпарка коцяцца ўніз
па галлю,
Рассыпаюцца ўжо па пасевах
І ўбіваюцца мякка ў зямлю.

Арыгінальныя думкі выказваюцца ў вершы "Размова пра зямлю". Колькі пра яе напісана! Але аўтарка знайшла свае словы і вобразы:

... Зямля залечыць раны
і сама,
Яна ж спрадвеку вельмі
ўжо цярплівa.
Даволі часта існуе маўклівa,
Калі нагоніць маразы зіма.

Парадуюць чытача і вершы настаўніцы Барысавіцкай школы Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці Ніны Уладзіміраўны Раманенка. Сама аўтарка гаворыць у сваім лісце: "Вершы ў мяне на розныя тэмы. Але ўсё ж галоўнае — чарнобыльская бяда, боль чалавечага сэрца, нанесены ёю. У гэтай бядзе апынулася і я сама, і мая школа... Дасылаю вам набалелыя ў душы вершы разам са сваім болем і смуткам".

Але ў Ніны Уладзіміраўны хапае сілы, каб сказаць добрае слова пра тое, што яе радуе, узнімае настрой. Тое бачна ў вершы "Родная мова". Гэта для яе крыніца, з якой яна чэрпае натхненне, радасць жыцця і працы:

Для беларусаў жывая аснова,
Ты, быццам папараць-кветка,
цвіла,
Цябе вывучала я, родная
мова,
І дзецям я веды свае аддала.

Чарнобыль! Колькі бяды і няшчасця прынёс ён людзям, прыродзе, яе насельнікам. Ніна Уладзіміраўна адчула яго ў сваім жыцці, бачыць страшэнныя вынікі дзейнасці радыяцыі. Аб гэтым — вершы "Дом дзяцінства", "Плач сэрца", "Запрашэнне", "Мае буслы", "Мой боль", "Жураўліная доля". Ужо толькі пералік загалоўкаў вершаў раскрывае страшэнны малюнак злачыннай радыяцыі.

Выкладчыца роднай мовы, якая працуе ў Кобрыне, Ніна Дрык, піша, што любіць сваю працу, што "Настаўніцкая газета" — яе лепшы дарадчык, даслала некалькі сваіх вершаў. Яна ўжо не навічок у гэтай справе. Яе творы друкаваліся ў раённай і абласной газетах. Што хвалюе аўтара? Мова, на якой размаўляе, гісторыя роднага краю, каханне, жыццё продкаў.

Лірычнасцю, дасканаласцю радкоў вызначаецца верш, прысвечаны Яўгеніі Янішчыц:

Ластаўка, палеская галубка...
Веру я, ты проста
не ўтрымалася,
Паляцела ў прастрань
да святла.

У вершы "У вянок Паўлюку Багрыму" ўслаўляецца веліч таленавітага паэта і майстра роднай зямлі:

Адрос ад бацькоўых калёс,
Сягнуў вышэй, да сонца.
Ці ведаў ты, што людзям нёс
Чароўных спраў бясконцасць.

З добрымі, сардэчнымі, па-народнаму шчырымі вершамі трэба павіншаваць педагога-пенсіянера з Пастаў Віцебскай вобласці Ніну Маркаўну Захарэвіч. Тэматыка яе твораў даволі багатая: успаміны пра маладосць, родную вёску, вайну, старонкі роднага краю; трапляюцца і сатырычныя творы, у якіх бічуюцца адмоўныя з'явы сучаснага жыцця. І галоўнае ў вершах Ніны Маркаўны — аптымізм, вера ў чалавека працы, у заўтрашні дзень.

Гэтую думку пацвярджаюць такія радкі:

Адкрыю сакрэт я, мой мілы
равеснік,
Каму я зайздрошчу ўжо
многа год:
Таму, хто складае прыгожыя
песні,
Якія ахвотна спявае народ.
Не трэба мне ўборы, набыткі,
абновы,
Мне старасць сваю аніяк
не схаваць,
Зайздрошчу таму, хто вясёлы,
здаровы,
Хто сам можа песню сваю
праспяваць.

Добрыя, змястоўныя песні спявае Ніна Маркаўна, яны дапамагаюць ёй жыць паўнакроўным жыццём у наш цяжкі час. Зайздросны лёс у такога чалавека!

Настаўнік з г. п. Івянец Іван Міхайлавіч Асіпацкі выступае ў жанры сатыры. Гэта нялёгкі занятак. Пад яго сатырычны абстрэл трапляюць хабарнікі, казнакрады. У адной са сваіх баек ён піша пра мядзведзя, які паказвае сябе сумленным, папракае сваіх сяброў за дробязныя ўчынкі, а сам робіць злачынствa. Вось ён, вяртаючыся з аб'езду сваіх уладанняў,

Ля пчалінага стаў пня...
Аскроб адзін, другі і трэці,
Вось гэта бочка будзе дзецям,
Міхал Міхалычу вунь тая,
А гэта той, каго кахаю.
Дастаў глячок, глыток адпіў
Ды ў мёд зноў лапу апусціў.
Між тым, на жаль, паміж
людзей
Мядзведзяў бачу ўсё часцей.

Васіль Лаўрыновіч з Глуска вершы піша даўно. Зараз ён старшыня раённага аб'яднання "Пціч", не можа сядзець без справы на пенсіі. У вершы "Агонь на сябе" ён прасочвае свой шлях салдата, які прайшоў суровыя ваенныя дарогі. Верш-успамін нагадвае маладому пакаленню, як цяжка далася нашаму народу Перамога над фашызмам.

Паэзія — гэта адказнасць перад чытачом, яго густам. Яна патрабуе свежай думкі, мастацкіх знаходак, вобразнага адлюстравання жыцця. Не ўсе вершы, адрасаваныя ў рэдакцыю, адпавядаюць таму.

Больш сур'ёзна трэба паставіцца да сваёй паэтычнай работы настаўнікам М. Я. Леанюк з Брэстчыны, Л. Б. Аўнапе з Віцебшчыны, Д.І.Дабрыяніку з Баранавічаў, М. А. Чарняўскай з Магілёва, І.Ц.Тарасаву з Мінска, А. У. Мазуру з Віцебшчыны. Першыя спробы пяра няхай не расчароўваюць вас. Толькі ўдумлівая праца над словам, добрае веданне матэрыялу дапамогуць дасягнуць жаданай мэты.

Паўлюк ПРАНУЗА.

## На табло "Маладосці" — 500!

Спартыўная тэрміналогія, мабыць, тут не да месца, але чаму б і не? У літаратуры і спорта шмат агульнага: бываюць удалыя старты і няўдалыя фінішы, альбо наадварот, ёсць свае форварды і свае аўтсайдэры. Розніца хіба ў тым, што нават Алімпійскія гульні абмежаваны ў часе, а літаратурны працэс па сутнасці бясконцы. Так, часопіс "Маладосць" няспынны "матч" з чытачамі вядзе ўжо 41 год. І вось на табло папулярнага маладзёжнага выдання загарэлася ўражлівая лічба — 500. Іменна столькі маладосцеўскіх кніжак пабачылі свет з дня заснавання часопіса.

Юбілейны нумар па волі лёсу прыпаў на сёлетні кастрычнік. Шматлікія падпісчыкі, а іх у нас за шэсць тысяч, гэты нумар ужо атрымалі ці хутка будуць мець у руках. І з яго добра бачна, што рэдакцыя па-ранейшаму аддае перавагу маладым талентам. Такога падыходу да літаратурнай справы вымагае не толькі статус, але і прэстыж "Маладосці". Давайце разам згадаем толькі некаторыя творы, якія ўпершыню былі надрукаваны ў маладзёжным часопісе і адразу ж сталі нашым агульным здабыткам і гонарам, занялі пачэснае месца ў беларускай культуры і нацыянальным Адраджэнні.

На памяць перш за ўсё прыходзяць знакамітыя аповесці Васіля Быкава "Жураўліны крык", "Трэцяя ракета", "Мёртвым не баліць". Шырокі шлях да чытача ім адкрыла менавіта "Маладосць". Не проста госцем заходзіў у рэдакцыю і незабыўны Уладзімір Караткевіч. У маладзёжным часопісе, акрамя шматлікіх аповесцяў, апавяданняў, эсэ, ён надрукаваў свае славутыя раманы "Дзікае паляванне караля Стаха" і "Чорны замак Альшанскі". Ёсць аматары беларускай літаратуры, якія, напэўна, і сёння захоўваюць маладосцеўскія кніжкі з такімі выдатнымі творамі, як "Паляванне на Апошняга жураўля" Алеся Жука, "Меч князя Вячкі" Леаніда Дайнекі, "Споведзь" Ларысы Геніюш, "Старажытная Беларусь" Міколы Ермаловіча. Тут названы толькі некалькі таленавітых аўтараў, а іх былі дзесяткі як сярод празаікаў, так і сярод паэтаў. Пакладзем руку на сэрца: які літаратар не пачынаў іменна са старонак "Маладосці"!

Не менш важкія здабыткі часопіса і за апошнія год-паўтара. З новымі празаічнымі творамі выступілі нашы старэйшыя пісьменнікі Іван Шамякін, Алесь Асіпенка, Барыс Сачанка, Янка Сіпакоў, Уладзімір Дамашэвіч. Хораша парадаваў чытачоў сваім першым раманам "Не аднойчы забіты" Уладзіслаў Рубанаў, які, на вялікі жаль, у росквіце творчых сіл нядаўна пайшоў ад нас. Зразумелую цікавасць у падпісчыкаў выклікалі аповесці і апавяданні Уладзіміра Саламахі, Анатоля Казлова, Алеся Кажадуба, Андрэя Федарэнкі. Свае новыя вершы часопісу прапанавалі Пімен Панчанка, Рыгор Барадулін, Юрась Свірка, Мікола Маляўка, Мар'ян Дукса, Мікола Федзюковіч, Леанід Дранько-Майсюк, Юрась Пацюпа, Алена Котава, Іна Снарская. Пад рубрыкай "Упершыню ў "Маладосці", якая, дарэчы, прысутнічае ў кожным нумары, за апошні час надрукаваліся Лана Медзіч, Віктар Кунцэвіч, Максім Шчур, Сяргей Патаранскі, Генадзь Аўласенка, Яўген Прадзядовіч і многія іншыя.

Цяпер, як яшчэ нядаўна сказалі б, у разгар падпісной кампаніі, рэдакцыя "Маладосці" складае перспектыўны план на будучы год. Ужо загадзя можна сказаць: кожны нумар часопіса таксама абяцае быць цікавым і змястоўным. Сваю новую аповесць "Бумеранг" нам дэкляраваў народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін, у рэдакцыйным партфелі чакаюць чаргі празаічныя творы Уладзіміра Саламахі, Таісы Бондар, Васіля Ткачова, Галіны Багданавай. Рыхтуюцца да друку аповесці і апавяданні вельмі многіх самых маладых пісьменнікаў. На паэтычнай арбіце "Маладосці" выступяць народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, былы франтавік Пятро Прыходзька. Багата што могуць сказаць чытачу і такія вядомыя прозвішчы, як Мікола Кусянкоў, Юрка Голуб, Алег Салтук, Віктар Шніп, Людміла Рублеўская. Не забыта, зразумела, і традыцыйная рубрыка "Упершыню ў "Маладосці". Зноў жа шэраг арыгінальных твораў на наступны год прапаноўваюць аддзелы крытыкі і публіцыстыкі, шмат матэрыялаў будзе прысвечана 50-годдзю Вялікай Перамогі.

Колькі слоў хацелася б сказаць і пра "Бібліятэку часопіса "Маладосць". Штогод у гэтай папулярнай серыі выходзіць 12 кніжак — прозы і паэзіі (па пяць), крытыкі і публіцыстыкі (па адной). Сёлета чытачоў, несумненна, парадавалі сваімі першымі зборнікамі маладыя літаратары Б.Лагода, А.Гара, А.Крэйдзіч, А.Шушко, К.Цыбульскі, А.Гуцаў, І.Снарская. На падыходзе новыя кніжкі. Цікавыя заяўкі зроблены і на наступны год. Дарэчы, свае творы асобным выданнем у "Маладосці" надрукавалі ўжо каля 80 пачынаючых творцаў, з іх больш за 20 аўтараў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

І апошняе — аб набалелым. Перспектыўны план складаецца, але ці будзе ён рэалізаваны? І гэта не рытарычнае пытанне. Часопіс "Маладосць", як і ўсе беларускамоўныя выданні, апынуўся на грані выжывання. Няма сродкаў. І дзе іх узяць? Патрэбна фінансавая падтрымка на дзяржаўным узроўні. Будзем, аднак, спадзявацца на лепшае. Ну, а пакуль суд ды справа, бяспройгрышны "матч" паміж "Маладосцю" і яе чытачамі працягваецца.

Віктар ГАРДЗЕЙ,
рэдактар аддзела паэзіі часопіса "Маладосць".

Галоўны рэдактар Алег КУЛІЦКІ.

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выдавецтва "Полымя" (220004, Мінск, праспект Машэрава, 11).

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 36-91-42; першага намесніка галоўнага рэдактара — 36-53-22; намесніка рэдактара-адказнага сакратара — 36-40-63; аддзелаў: праблем выхавання — 36-43-62, 36-41-55; школ — 36-90-63; органаў кіравання — 36-43-71; сацыяльных праблем; ВНУ і тэхнікумаў — 36-41-55; прафтэхадукацыі; пісьмаў і навін; культуры — 36-44-25

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па-бацьку, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.

Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Іван СОТНІКАЎ.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку."
220041, Мінск, праспект Ф. Скарыны,79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны.Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 Замова №90
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 19 11 12
Падпісана да друку 8.11.94 г. у 18.10
Наклад 51.374 паасобнікі.